НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 22 (811) 12 чэрвеня 2013 www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады



## Вундэркінд-эканаміст Кірыл Руды

Пяць фактаў пра новага памочніка Лукашэнкі. Старонка 5

## «Бэнтлі» належаў мільянеру Арбузаву?



Самая гучная аварыя лета. Старонка 10

# Нешчаслівае жыццё Людмілы Пуцінай

Старонка 6.



REUTERS

**Палітыка**

### Шпіён, які шпіёніў невядома на каго

У Віцебску пачынаецца закрыты суд над Гайдуковым. **Старонка 3.**



**Цырк**

### Справа Таццяны Бандарчук

За злоўжыванне паўнамоцтвамі ёй пагражае да 10 гадоў. **Старонка 4.**



**Выбар**

### «Я прафесійны рэвалюцыянер»

Гутарка з Паўлам Вінаградавым. **Старонка 9.**



**Гісторыя**

### Жамойць і Літва

Сапраўдная гісторыя. **Старонка 13.**




## Дык падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

# Самасейка лажануўся

**Старшыня камісіі па міжнародных справах палаты прадстаўнікоў не ведае, што такое АБСЕ.**



«Для нас важнае супрацоўніцтва ў розных напрамках, у тым ліку з краінамі Еўрасаюза, з іх арганізацыямі і структурамі і, у прыватнасці, з аддзелам бяспекі Рады Еўропы», — заявіў Мікалай Самасейка журналістам пасля сустрэчы з прадстаўніком АБСЕ па пытаннях свабоды СМІ Дуняй Міятавіч.

Насамрэч АБСЕ — гэта Арганізацыя па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе. Можна было б падумаць, што Самасейка агаварыўся. Але, па-першае, гэты чалавек займаецца ў «палатцы» менавіта пытаннямі міжнароднай палітыкі, а, па-другое, Самасейку не заспелі знянацку. Інтэрв'ю ў яго ўзялі пасля сустрэчы з Дуняй Міятавіч, мог бы падрыхтавацца.

Такія памылкі прымушаюць увогуле задумацца аб прафесіяналізме дэпутатаў.

Пікантнасці дадае факт, што Самасейка — гэта той самы «абраннік народа», за якога, найхутчэй, галасаваў Лукашэнка. Бо менавіта ён «перамог» па Старавіленскай акрузе, да якой прапісаны кіраўнік дзяржавы. Наўрад ці Лукашэнка аддаў голас за Анатоля Лябедзьку.

Мікалай Самасейка раней быў старшынёй Цэнтральнага суда сталіцы. Таго самага суда, для якога забралі будынак Коласаўскага ліцэя.Таго самага, дзе судзілі ўдзельнікаў акцый на Кастрычніцкай плошчы.

Мабыць, менавіта за гэта Самасейка атрымаў медаль «За працоўныя заслугі».

Праца дэпутата не вельмі цяжкая. За мінулае скліканне (2008 — 2012) самімі дэпутатамі быў ініцыяваны ўсяго адзін (!) закон — «Аб абыходжанні з жывёламі». Астатнія ж ініцыявалі ці ўрад, ці Лукашэнка.

Дэпутат Аляксандр Зазуля прызнаваўся летась, што ягоны заробак складае 10 мільёнаў рублёў. Пры гэтым дадаў, што цалкам «зарабляе і адрабляе» гэтыя грошы.

У сітуацыі, калі прадстаўнікоў у палату прызначаюць (спіс пераможцаў па акругах журналісты і палітолагі адгадалі яшчэ задоўга да дня галасавання), а не абіраюць, самі дэпутаты не адчуваюць адказнасці за пасаду. Ад таго і здараецца, што АБСЕ — аддзел бяспекі Рады Еўропы. Студэнту б за такое яўна паставілі «незалік», а вось дэпутату Самасейку ані ў знак.

**Зміцер Панкавец**

# Праўнучка Касцюшкі ідзе ў мэры Парыжа



**На выбарах яна будзе спаборнічаць з сацыялісткай.**

Наталі Касцюшка-Марызэ прыме ўдзел у выбарчай кампаніі ў якасці кандыдата ў мэры французскай сталіцы.

Яна выйграла праймерыз сваёй партыі «Саюз за народны рух». Яе сапернiцай на выбарах стане кандыдат ад Сацыялістычнай партыі Ана Ідальго. Абедзве жанчыны маюць шанцы выйграць выбары.

Наталі Касцюшка-Марызэ была міністрам пры Нікаля Сарказі, а да гэтага — дэпутатам парламента.

Яна мае беларускія карані і паходзіць з сям'і з вялікім палітычным мінулым. Далёкі продак Наталі Касцюшкі-Марызэ быў братам Тадэвуша Касцюшкі — кіраўніка паўстання 1794 г.

Дзед кандыдата ў мэры Парыжа Жак Касцюшка быў паслом Францыі ў ЗША, прадзед Андрэ Марызэ — сенатарам, бацька, Франсуа Касцюшка-Марызэ, з'яўляецца мэрам Сеўра.

Наталі Касцюшка-Марызэ ад 2008 г. з'яўляецца мэрам горада Ланжумо, горадка непадалёк ад Парыжа. Дарэчы, менавіта там калісьці жыў у эміграцыі Ленін.

Пасада мэра сталіцы лічыцца адной з самых важных у Францыі. Ні разу за ўсю гісторыю Парыжа гэту пасаду не займала жанчына.

## Пачаўся збор подпісаў за бел-чырвона-белы сцяг

**Сімвал прапануецца ўключыць у Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў.**

«Пагоня» ў гэтым спісе ўжо ёсць. Некалькі грамадскіх ініцыятываў пачалі збор подпісаў пад калектыўным зваротам у Міністэрства культуры.

Каб далучыцца да збору подпісаў, трэба раздрукаваць адзіную форму калектыўнага звароту з сайта **artsiadziba.by**, запоўніць бланкі і даслаць па вызначаным адрасе: **220113, Мінск, а/с 280.**

Вынікі кампаніі і колькасць подпісаў будуць агучаныя 27 ліпеня.

**ЛМ**

**Апытанне на nn.by**

**Як Вы будзеце адпачываць гэтым летам?**

| | | |
|---|---|---|
| Буду працаваць | 398 | 35% |
| Паеду на мора за мяжу | 212 | 18% |
| Паеду за мяжу, але не на мора | 144 | 12% |
| Паеду ў родавую вёску | 142 | 12% |
| Адпачынак будзе актыўны (будоўля, помач сваякам...) | 96 | 8% |
| Буду на дачы | 93 | 8% |
| Пайду ў паход | 68 | 6% |

**Усяго прагаласавала 1153.**

## Сцісла

**Інтэрнэт-гандляроў абавяжуць карыстацца касавымі апаратамі**

З 16 чэрвеня ўступае ў сілу пастанова Савета міністраў Беларусі, якая пашырае выпадкі абавязковага выкарыстання касавага абсталявання. Пад новыя правілы падпалі і інтэрнэт-крамы. Чэк мусіць выдавацца ў тым ліку і пры дастаўцы тавараў на дом.

**Сялянам дазволяць самім біць свіней**

Вяскоўцам вяртаюць права самастойна праводзіць забой сельскагаспадарчых жывёл. Забой павінен ажыццяўляцца пад кантролем ветэрынарнага ўрача з абавязковым правядзеннем ветэрынарна-санітарнай экспертызы.

**Google навучыўся беларускай лацінцы**

Папулярны інтэрнэт-сэрвіс Google Translate, які дазваляе перакладаць тэксты паміж 71-й моваі свету, навучыўся дубляваць тэкст на беларускай лацінцы. Дастаткова націснуць на значак «À» (у правым куце поля перакладу). Гэта нарматыўная лацінка для транслітарацыі геаграфічных назваў, зацверджаная Акадэміяй навук.

**У інтэрнэт выклалі «Асабісты архіў Сталіна»**

Федэральнае архіўнае агенцтва Расіі запусціла сайт «Дакументы савецкай эпохі». Там даступныя ў электронным выглядзе больш за 400 тысяч матэрыялаў з асабістага фонду Іосіфа Сталіна і кіраўніцтва кампартыі СССР.

**У Гродне на гародзе адкапалі БТР**

Савецкі бронетранспарцёр раскапалі падчас земляных работ для будаўніцтва падмурка пад дом. Яшчэ нядаўна ў гэтым раёне дзейнічаў навучальны палігон ДТСААФ, на якім курсанты навучалі кіраванню баявымі машынамі.

**ЯМ**

**Рэкамендуем**

**«Не згубіце мовы»**

Шакуючая сацыяльная рэклама.

**Глядзіце і чытайце на nn.by.**

## Самае чытанае на nn.by за 5—11 чэрвеня

1. Дзе працуюць дзеці беларускіх чыноўнікаў?
2. Уладзімір і Людміла Пуціны абвесцілі пра развод
3. Новы ўказ: Правядзенне канцэртаў — толькі са згоды ідэолагаў
4. Шакуючае відэа: так абыходзяцца з жывёламі ў аграгарадку ў Брэсцкім раёне
5. Пачаўся збор подпісаў за бел-чырвона-белы сцяг
6. Ахлабысцін гатовы нанесці ядзерны ўдар па Польшчы
7. Майкл Дуглас звязаў свой рак з аральным сэксам
8. Галоўны крэдытор Беларусі патрабуе абмежавання заробкаў
9. На Вілейку ў чацвер абрынуўся такі град, што людзі гулялі ў снежкі
10. Памёр апошні чалавек, для якога ліўская мова была роднай

# Шпіён, які невядома на каго шпіёніў

У Віцебску пачынаецца закрыты **суд над Гайдуковым**.


Ці ёсць склад злачынства ў дзеяннях юнака?

Надзвычайны выпадак: чалавека абвінавачваюць у здрадзе дзяржаве, заўтра суд, а ніхто не ведае, на якую краіну ён працаваў.

12 чэрвеня пачынаецца працэс па справе Андрэя Гайдукова. Больш за 7 месяцаў хлопец знаходзіцца ў турме КДБ. Хлопцу пагражае да 15 гадоў турмы. За гэты час у яго не было ніводнага спаткання з блізкімі. А сябры і паплечнікі адно гадаюць, якая сапраўдная прычына затрымання 23-гадовага навапалачаніна.

Ёсць загадка ў тым, што грамадству дагэтуль не паведамілі ніякай канкрэтыкі, у чым жа віна хлопца. У той жа час суд зрабілі закрытым. Значыцца, журналісты не змогуць прысутнічаць на працэсе. Не пусцяць у залу і сваякоў. А адвакат маўчыць, бо «таямніца следства». І як тады паверыць у абвінавачванні?

### На працу хадзіў у строі з «Пагоняй»

Прэса паспела ахрысціць Андрэя «слесарам-шпіёнам». Калі быць дакладным, Гайдукоў працуе аператарам тэхналагічных установак на наваполацкім «Нафтане». Апроч гэтага, ён студэнт-завочнік 5 курса Полацкага дзяржуніверсітэта, інжынерна-тэхналагічнага факультэта.

«Андрэй рознабаковы. Любіць гістарычную літаратуру, добра разбіраецца ў камп'ютарах. Рыбалкай займаецца — яму ўсё цікава! Прытулку для жывёл дапамагаў», — расказвае маці.

На працу Андрэй прыходзіў у бела-чырвоным гарнітуры з «Пагоняй», кажа сябра БНФ Сяргей Сідараў, які таксама працуе на «Нафтане». Паводле Сідарава, хлопца неаднаразова выклікаў да сябе намеснік дырэктара па ідэалогіі, у прыватнасці, у час «маўклівых акцый».

Наваполацкія актывісты збіралі грошы для сям'і Гайдукова. «Гэта ж нашы хлопцы, «Саюз маладых інтэлектуалаў», — кажа мясцовы актывіст Сяргей Парчынскі. — Яны заўжды нам дапамагалі. І мы першыя пачалі крычаць пра гэтае затрыманне, заступацца, бо сваіх жа кідаць нягожа!»

### Што такое «Саюз маладых інтэлектуалаў»?

Андрэй Гайдукоў быў намеснікам старшыні незарэгістраванага «Саюза маладых інтэлектуалаў». Рыхтаваў дакументы да рэгістрацыі суполкі ў якасці міжнароднай арганізацыі. Праводзіў перамовы з расійскімі юрыстамі, выязджаў у Маскву.

«Мы яднаем маладых людзей, якія хочуць удасканальвацца, ствараць сумесныя праекты, удзельнічаць у грамадскай дзейнасці. Мэта — стварэнне моцнай моладзевай арганізацыі ці партыі, якая прадстаўляе інтарэсы інтэлектуальнай эліты». Так напісана ў суполцы ў сацыяльнай сетцы «Укантакце». Але ці чуў хто пра рэальную дзейнасць арганізацыі з даволі гучнай назвай?

«Саюз маладых інтэлектуалаў» утварыўся ў 2009, расказаў Яўген Канстанцінаў, яго старшыня. Летам 2011 маладзёны ўдзельнічалі ў «Рэвалюцыі праз сацыяльныя сеткі». Там Яўген і пазнаёміўся з Андрэем.

Хлопец падаўся адукаваным, і Яўген зрабіў яго сваім намеснікам. Дзякуючы працы апошняга, незарэгістраваную арганізацыю прынялі ў Нацыянальную платформу «Усходняга партнёрства», Альтэрнатыўную моладзевую платформу.

Абвінавачанні супраць Гайдукова, на думку яго паплечніка, абсурдныя.

Чаму затрымалі намесніка, а не «шэфа»? Яўген лічыць, што гэта звязана з тым, што Андрэй займаўся міжнароднай рэгістрацыяй арганізацыі. Аднак гэта не выглядае праўдападобным тлумачэннем.

У лістах з турмы КДБ Гайдукоў пісаў, што найлепшым падарункам для яго будзе рэгістрацыя «саюза». Аднак па словах Канстанцінава, пакуль займацца гэтым няма сэнсу:

«Усе ў чаканні прысуда. Ад рашэння суда залежаць і нашыя далейшыя дзеянні».

Зімой Канстанцінава выклікалі на допыт па справе Гайдукова. Аднак цікавіліся не справамі «інтэлектуалаў», а яго датычнасцю да мясцовай гей-суполкі — зімой актывістаў сэкс-меншасцяў «прыціснулі» ўлады за спробу рэгістрацыі сваёй арганізацыі.

Цяпер Яўген працуе адміністратарам у адным з гандлёвых цэнтраў Мінска. На суд яго ў якасці сведкі не выклікалі.

### За што судзяць хлопца: версіі

Паводле афіцыйнай версіі, Гайдукоў падазраецца ў сувязі з замежнай выведкай, а менавіта — перадачы палітычнай і эканамічнай інфармацыі пра Беларусь. Каму і якога кшталту інфармацыя перадавалася — невядома. Нядаўна старшыня КДБ Валерый Вакульчык заявіў, што тыя, хто абараняюць Гайдукова, пасля рашэння суда «акажуцца ў нязручным становішчы». Суд па справе Гайдукова будзе закрытым.

Праваабаронцы звязваюць пераслед актывіста з яго апазіцыйнымі поглядамі і тлумачаць спробамі запалохаць моладзь. Яшчэ падчас прэзідэнцкіх выбараў Гайдукоў працаваў у штабе Андрэя Саннікава. Пасля удзельнічаў у парламенцкай кампаніі, назіраў на выбарах. Аднак праваабаронцы не спяшаюцца даваць такі статус, бо браку е інфармацыі. А раптам ён сапраўды адначасова рабіў нешта іншае.

Іншую версію — што Гайдукова затрымалі, калі той перавозіў газету «Хартыя'97» для распаўсюду на Віцебшчыне, — агучыла «Еўрапейская Беларусь».

Яшчэ адна версія заключаецца ў тым, што Гайдукоў нібыта «зліваў» інфармацыю аб аб'ёмах перапрацоўкі на сваім заводзе расійскім спецслужбам, а зусім не ЦРУ. Аднак адкуль у рабочага мог быць доступ да «сакрэтных» дадзеных?

**Аксана Рудовіч**

**Як гэта было**

У чацвер 8 лістапада 2012 супрацоўнікі КДБ затрымалі ў Віцебску Андрэя Гайдукова. Сам хлопец з Наваполацка. Пасля затрымання ў яго кватэры адбыўся ператрус. Забралі дыскі і два камп'ютары: ягоны і бацькі.

У той жа дзень затрымалі яшчэ аднаго актывіста — сябра БХД Ілью Багданава, аднагодку Гайдукова. Аднак Багданава неўзабаве вызвалілі пад падпіску аб неразгалошванні. Вядома, што яго вазілі ў КДБ у Мінск, а дома праводзілі ператрус і канфіскавалі камп'ютар.

11 лістапада Гайдукова прывозяць у Мінск у СІЗА КДБ, знакамітую «амерыканку». Спецслужбы заявілі, што «спынена супрацьпраўная дзейнасць грамадзяніна Беларусі», які збіраў і перадаваў палітычную і эканамічную інфармацыю замежнікам. Затрыманне нібыта адбылося «ў момант закладкі тайніка са звесткамі, што цікавяць замежныя спецслужбы». Завялі справу «здрада дзяржаве ў форме правядзення агентурнай дзейнасці». А гэта ад 7 да 15 гадоў турмы.

Гайдукова перакідвалі то ў Віцебск, то зноў у Мінск. Бацькі Андрэя застаюцца ў няведанні, што з іх сынам: «Мы так і не можам зразумець, што насамрэч адбываецца вакол сына.

# Чарговы касметычны рамонт для Еўропы

Прынятыя **папраўкі ў законы** аб партыях і грамадскіх арганізацыях.



Палата прадстаўнікоў у першым чытанні прыняла папраўкі ў законы аб дзейнасці грамадскіх аб'яднанняў (ГА) і палітычных партый. Дзяржаўныя СМІ падаюць дадзеныя змены як лібералізацыю і спрашчэнне заканадаўства. Якія рэальныя змены гэта прынясе, расказаў юрыст і палітолаг Юры Чавусаў.

**«Наша Ніва»: Ці істотна паўплываюць новыя папраўкі на цяперашні стан рэчаў?**

**Юры Чавусаў:** Падчас падрыхтоўкі законапраекта ўлетку 2012 грамадскія аб'яднанні і палітычныя партыі зрабілі велізарную работу па вылучэнні прапаноў. Аднак прыняты законапраект далёкі ад чаканняў.

У ім ёсць пазітыўныя моманты. Па-першае, спрасцілі парадак стварэння рэспубліканскіх грамадскіх аб'яднанняў. Раней для гэтага трэба было 50 чалавек: па 10 ад чатырох абласцей і 10 ад Мінска. Цяпер абавязковую мінімальную квоту прыбіраюць.

Таксама ўдакладнілі парадак рэгістрацыі аддзяленняў міжнародных аб'яднанняў, бо раней з гэтым узнікалі бюракратычныя праблемы. Ёсць і палёгкі для мясцовых аб'яднанняў.

Цікавы момант: у законапраекце прапісаны механізм трансфармацыі ГА ў палітычную партыю. Адразу відаць, што пісалі дадзенае палажэнне адмыслова пад «Белую Русь», хоць улады ў выніку не ўхвалілі змену. Бо сённяшняе заканадаўства ніяк не абмяжоўвае такіх зменаў.

**«НН»: Што трэба змяніць для сапраўднай лібералізацыі заканадаўства?**

**Юры Чавусаў:** У беларускіх ГА застаецца тры асноўныя праблемы, без вырашэння якіх дэмакратызацыя заканадаўства немагчымая. Па-першае, цяжкасць рэгістрацыі. У нас штогод рэгіструецца каля 100 арганізацый, а гэта вельмі мала. Для рэгістрацыі ГА дагэтуль патрэбны юрыдычны адрас, трэба здымаць офіс, у той час як бізнэс можна зарэгістраваць у кватэры.

Па-другое, існаванне крымінальнага пакарання за дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі. Мы аказаліся ў кампаніі Бахрэйна, Уганды, Алжыра — у гэтых краінах існуе падобная адказнасць. Нават у краінах постсавецкай прасторы за дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі вам максімум выпішуць штраф.

Па-трэцяе, фінансавыя ўмовы. Цяпер крыніцамі існавання любой грамадскай арганізацыі з'яўляюцца ахвяраванні і сяброўскія ўнёскі. Аднак, напрыклад, юрыдычныя асобы могуць пералічваць грошы толькі на мэты, зацверджаныя заканадаўствам. Праваабарончая дзейнасць ці гендарная роўнасць у гэты спіс не ўваходзяць. Сістэмы дзяржаўнага фінансавання ГА няма, а замежная дапамога ўскладненая неабходнасцю яе рэгістраваць.

**Кірыла Хілько**

# «Каралеве цырка» пагражае да 10 гадоў пазбаўлення свабоды


ALESYAMAG.BY

Заведзеная крымінальная справа супраць **Таццяны Бандарчук**.

Следчы камітэт завёў крымінальную справу супраць былой дырэктаркі Беларускага дзяржаўнага цырка Таццяны Бандарчук.

Яе вінавацяць у злоўжыванні службовымі паўнамоцтвамі. За такія дзеянні прадугледжваецца пакаранне ад 3 да 10 гадоў пазбаўлення свабоды з канфіскацыяй альбо без яе. Расследаванне вядзецца, аднак пад варту Бандарчук не бралі. На допыты яна прыязджае з загараднага лецішча. З журналістамі размаўляць не хоча і афіцыйных каментароў не дае.

«Наша Ніва» сабрала самыя цікавыя факты пра гэтую неардынарную жанчыну.

### Ужо арыштоўвалі. «Эскадрон смерці»

Незвычайная гісторыя адбылася ў 2000 годзе. Міліцыя арыштавала Бандарчук па падазрэнні ў атрыманні хабару ў памеры $4,9 тысячы. На працягу сутак ёй было выстаўлена абвінавачанне і дырэктарка цырка апынулася ў СІЗА.

Галоўным сведкам па гэтай справе быў начальнік кантрольнарэвізійнага ўпраўлення Міністэрства культуры Аляксандр Грачоў. Менавіта ён упільнаваў факты фінансавых махінацый падчас праверкі цырка. Былі знойдзены таксама факты па балеце «Серж» (заснавала Бандарчук), з якога дзяўчат нібыта адпраўлялі ў ААЭ працаваць прастытуткамі. Але калі справа пайшла ў ход, то да Грачова на працу сталі прыязджаць людзі са Службы бяспекі Лукашэнкі...

У ізалятары Бандарчук пратрымалі месяц, вызвалілі па рашэнні кіраўніка дзяржавы. Грачоў потым узгадваў, што праз дзень пасля вызвалення Бандарчук адбыўся наступны інцыдэнт:

«Падыходжу да дома і бачу машыну «хуткай дапамогі». Нават спалохацца не паспеў, як да мяне падбеглі дужыя хлопцы. Адзін б'е мяне кулаком у твар і выбівае два зубы. Я падаю. Мне на галаву адзяваюць маску, падхопліваюць і кідаюць у машыну. Мяне адвезлі на якуюсьці базу і змардавалі да непазнавальнасці. Спрабавалі даведацца, хто праводзіў праверкі ў цырку — хто якія дакументы перачытваў. Білі па нырках, пагражалі забойствам, шчоўкалі каля вуха затворам аўтамата, размахвалі пісталетам — гэта быў жах нейкі!»

Пазней ужо Грачоў пазнае і ў твар, і па голасе аднаго з выкрадальнікаў. Ім быў спецназавец Валерый Ігнатовіч. Той самы Ігнатовіч, які праз нейкі час будзе асуджаны на пажыццёвае зняволенне за датычнасць да выкрадання Зміцера Завадскага.

### Цыркавая дынастыя

Тацціяна Бандарчук з'яўляецца сваячкай былога ідэолага рэсаветызацыі, намесніка кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Уладзіміра Замяталіна. Менавіта ён заўсёды быў ейным заступнікам і абаронцам у вышэйшых колах.

Сын Тацціяны — ілюзіяніст, галоўны рэжысёр Белдзяржцырка Серж Бандарчук, а нявестка — таксама цыркачка і тэлевядучая Ганна Бонд.

«У будучыні я, напэўна, хацела б, каб цырк узначаліў сын Серж. Ён ведае цыркавы рынак, і ў яго ёсць мая рыса — адказнасць».

### Муж нашмат маладзейшы

Першым мужам Тацціяны быў акрабат Генадзь Бандарчук. Разам з ім яны пражылі 18 гадоў. Пазней жанчына казала, што муж быў «цяжкім на пад'ём», не праяўляў ініцыятывы. Лёс абярнуўся так, што сёння Тацціяна даглядае былога мужа, у якога хвароба Альцгеймера.

Цяпер яна ў шлюбе з артыстам Купалаўскага тэатра Віталём Макарэвічам, які перайшоў на працу ў цырк — шпрэхшталмейстарам. Так у цырку называюць вядучага праграм.

Ён, дарэчы, нашмат маладзейшы за жонку, Макарэвічу 39 гадоў. Тацціяне — 61.

Тым не менш, выглядае яна значна маладзейшай за свае гады.

«Шчыра кажучы, я сабой практычна не займаюся. Толькі працую, часам гатую. Кожны дзень прачынаюся а шостай раніцы, часам удаецца знайсці час на масаж. А ўвечары, пасля цяжкага дня, думаю: вось зараз пайду ў залу і пакачаю прэс. У выніку дабіраюся толькі да ложка», — казала спн. Бандарчук.

### Усё жыццё — цырк

У цырку Тацціяна Бандарчук адпрацавала амаль 42 гады, апошнія 16 — была дырэктарам. Цяпер яе месца часова заняў Сяргей Мядзведзеў, які працаваў ва ўправе культуры Мінгарвыканкама.

Ведомасць і неафіцыйны тытул «каралевы цырка» яна заслужыла, робячы ўнікальны трук: Тацціяна круціла абруч, стоячы ў пуантах, як балерына, на далоні партнёра.

Пасля такога гучнага дэбюту Бандарчук яшчэ ў савецкі час стала ездзіць у замежныя краіны на гастролі.

На ейным юбілеі былі памочніца прэзідэнта Наталля Пяткевіч, старшыня Мінгарвыканкама Мікалай Ладуцька, тагачасны міністр культуры Павел Латушка, спявачка Іна Афанасьева.

«Я не толькі «перакладаю важныя паперы» на стале дырэктара, але кірую і творчым працэсам. Усе нумары ствараліся паводле маіх ідэй, маіх сцэнарыяў, маіх дызайнерскіх задум, і гэта ўсё нумары ручной працы», — казала яна ў адным з інтэрв'ю.

### Бандарчук і Лукашэнка

«У мяне прайшла праверка Дзяржкантролю, і я больш нічога не ведаю. Калі Дзяржкантроль вырашыў пачаць крымінальную справу і мяне проста забіць, дык разбярэцца кіраўнік дзяржавы — ён аб'ектыўны чалавек. Я думаю, што ён проста не ўсё ведае», — сказала Бандарчук у невялікім каментары для tut.by.

Бандарчук заўсёды называлі любімай артысткай Аляксандра Лукашэнкі, не так даўно ёй было прысуджана званне народнай.

«Мне хочацца выйсці на вуліцу і крычаць «ура». Дзякуй прэзідэнту», — так «каралева цырка» адрэагавала на навіну пра званне.

**Зміцер Панкавец**

# Сфатаграфаваў міліцыянтаў — адвялі ў пастарунак

Хоць рабіць здымкі законам **не забаронена**.

Сёлета супрацоўнікі патрульнапаставой службы міліцыі перасаджваюцца на скутары. Такім чынам у Мінску цяпер патрулююцца буйныя паркі. Міліцыянт на мапедзе — даволі экзатычная з'ява, але спроба сфатаграваць яго можа скончыцца непрыемнасцямі. Мінчука Аляксея Маневіча за такое забралі ў міліцыю.

«Я гуляў разам са сваім дзіцём на стадыёне на вуліцы Цнянскай. Убачыў міліцыянтаў на скутарах, вельмі зацікавіўся і вырашыў сфатаграфаваць. Гэта ім не спадабалася, яны падышлі да мяне», — расказаў ён.

«Адзін з іх сказаў: «А вы ведаеце, што нельга нас фатаграфаваць?» Я папрасіў патлумачыць, чаму. Спасλаліся на тое, што я парушаю Дэкларацыю правоў чалавека.

Я зразумеў, што так проста яны ад мяне не адчэпяцца, і патэлефанаваў на нумар 102. Неўзабаве прыбыў яшчэ адзін супрацоўнік. Ён паспрасіў мае дакументы, але я выйшаў на прагулку і, зразумела, у мяне іх не было. Тады ён прапанаваў мне прайсці ў Савецкае РУУС.

Там мяне «прабілі» па базе і сказалі, што ніхто мяне не затрымлівае. Аднак супрацоўнік у цывільным адзначыў, што могуць затрымаць, калі яны атрымаюць нейкі ордар. Таксама ён палохаў мяне магчымымі праблемамі ў будучым, асабліва калі гэтыя фотаздымкі будуць апублікаваныя ў якой-небудзь сацыяльнай сетцы», — расказаў Маневіч.



Закон аб органах унутраных спраў замацоўвае галоснасць працы міліцыянтаў. Магчыма, ім не спадабалася, што на фота трапіла парушэнне ПДР: міліцыянты кіравалі мапедамі без шлемаў.

«Ні ў адным нарматыўнаправавым акце Беларусі няма прамой забароны на фатаграфаванне міліцыянтаў. Калі супрацоўнікі міліцыі ў форме і знаходзяцца ў грамадскім месцы, здымаць іх не забаронена. Міліцыянты могуць прыкрывацца забаронай на здымку супрацоўнікаў МУС падчас аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў, аднак пад дзеянне гэтай забароны падпадае толькі вельмі вузкае кола супрацоўнікаў у вельмі спецыфічных абставінах», — каментуе юрыст.

**Кірыла Хілько**


SVABODA.ORG

# Вакол Курапатаў усталявалі памятныя валуны

Працягваюцца і **талокі**: у аўторкі і суботы.

Як паведаміў намеснік старшыні КХП-БНФ Юрась Беленькі, сябры партыі ўсталявалі на тэрыторыі мемарыяльнага комплексу 5 валуноў. На камянях вышынёй каля 1,5 метра прымацаваныя шыльды з надпісамі: «1937–1941. Гісторыка-культурная каштоўнасць «Месца згубы ахвяр палітычных рэпрэсій. Прычыненне шкоды караецца па законе».

А сябры ініцыятывы «За ўратаванне Курапат» з 25 мая па 29 кастрычніка аб'явілі вялікую талаку. Мерапрыемствы на тэрыторыі лесу будуць праходзіць у тры этапы, і яны накіраваныя на добраўпарадкаванне тэрыторыі некропаля. У ініцыятыве ўжо ўзялі ўдзел прадстаўнікі розных партый і рухаў, а таксама валанцёры.

Цяпер талокі будуць праводзіцца два разы на тыдзень — штоаўторак па вечарах і па суботах.

**Настасся Храловіч**

# Багданкевіч пра новага памочніка Лукашэнкі: «Талковы!»


БЕЛТА

Пяць фактаў пра вундэркінда Кірыла Рудага.

### Наймаладзейшы ў адміністрацыі

Словы Аляксандра Лукашэнкі пра амаладжэнне кадраў не засталіся пустымі. Памочнікам прэзідэнта па эканоміцы нечакана прызначаны 35-гадовы Кірыл Руды.

Да яго пасаду займалі адыёзны Сяргей Ткачоў, які сышоў у «Амкадор», і пенсіянер Пятро Пракаповіч, якога павысілі ў віцэ-прэм'еры.

Кірыл Руды будзе наймаладзейшым у вышэйшых эшалонах улады. Але не гэта самае рэдкае. Ён прыйшоў на высокую пасаду не з казармаў і не з выканкамаўскіх кабінетаў.

Перш чым трапіць ва ўладу, Руды зрабіў выдатную навуковую кар'еру. Кандыдатам навук стаў ужо ў 23 гады, а доктарам — у 33. Навуковыя зацікаўленасці Рудага — фінансы, крэдыты, фінансавыя крызісы. Ён аўтар некалькіх навучальных дапаможнікаў.

«Знешнеэканамічная раўнавага і фінансавыя механізмы яе фарміравання ў краінах з транзітыўнай эканомікай», — так гучала тэма ягонай доктарскай. Навуковым кансультантам працы быў рэктар БДЭУ, былы міністр эканомікі Уладзімір Шымаў. Нейкі час Руды быў намеснікам дэкана ў «альма матар».

### Стажыраваўся ў ЗША

Кірыл Руды быў стыпендыстам праграмы Фулбрайта, якая фінансуецца ўрадам ЗША. На працягу чатырох месяцаў беларус стажыраваўся ў Чыкага. Казаў, што яго выбралі на праграму, бо «ўзяў усіх сваёй маладосцю, запалам і камунікабельнасцю».

Руды працаваў у Чыкага над «планам фінансавай стабілізацыі краін СНД». Адразу ж сказаў, што з'язджаць у Штаты назаўсёды ён не збіраецца, так і выйшла.

Вядома, што ён жанаты. У пашпарце пішацца лацінкай Kiryl Rudy.

Але жонка ў пашпарце ўжо Elena Rudaja, а не Alena, як належыць па-беларуску.

### Багданкевіч: «Талковы, граматны, сучасны»

Руды абараніў кандыдацкую ў 2001 годзе ў «наргасе». Тэма — «Механізм выбару рэжыму абменнага курса». Навуковым кіраўніком быў прарэктар БДЭУ Мікалай Заяц, а апанентам пры абароне — прафесар Станіслаў Багданкевіч.

Ганаровы старшыня АГП узгадвае пра Кірыла Рудага: «Моцны студэнт, паспяхова абараніўся. Талковы, граматны, сучасны, падрыхтаваны, працавіты. Калі да яго будуць прыслухоўвацца, то гэта вельмі добра. Такіх людзей і трэба ўцягваць ва ўладу. Разам з тым, трэба мяняць сістэму. Інакш нават такія людзі, як Руды, будуць увесь час заставацца «на пабягушках». У Лукашэнкі не было паўгода памочніка па эканоміцы? А Мясніковіч хіба не памочнік?» — іранізуе Багданкевіч.

### Кітай

Некалькі апошніх гадоў Кірыл Руды працаваў эканамічным дарадцам у пасольстве Беларусі ў Кітаі. У сваіх навуковых працах ён пісаў пра «ўзмацненне ўплыву КНР у свеце». «Нягледзячы на складанасць кітайскай мовы, у апошнія гады яе папулярнасць у свеце расце, што найперш звязана з ростам і неабходнасцю эканамічнага супрацоўніцтва з Кітаем».

Што тычыцца самой працы, то інфармацыі не так шмат. Вядома, што Руды вёў перамовы з кітайскім Дзяржбанкам аб супрацоўніцтве з Беларуссю. Браў удзел у распрацоўцы праекта кітайска-беларускага індустрыяльнага парка, што мае паўстаць пад Смалявічамі.

### Бізнэс

Перад прызначэннем у Адміністрацыю Руды крыху папрацаваў у бізнэсе. Да апошняга дня ён з'яўляўся намеснікам гендырэктара беларуска-кітайскага прадпрыемства «Бел Хуавэй Тэхналоджыс». Прынамсі, сёлета ў сакавіку агучваў ідэю стварэння смартфонаў, якія будуць прадавацца пад брэндам «Гарызонта».

**Зміцер Панкавец**

# Беларускія банкі даюць грошы на вяселле ці ўстаноўку помніка

Мэтавыя крэдыты часцяком выгаднейшыя за звычайныя.

Стаўкі па спажывецкіх крэдытах у беларускіх банках паступова змяншаюцца. Перахапіць грошы на спажывецкія патрэбы без паручальнікаў можна ўжо пад 30—32% гадавых. Аднак спецыялізаваныя крэдыты — на куплю аўтамабіля ці тэхнікі, на навучанне, лячэнне і нават на ўпарадкаванне магілак — выгаднейшыя. Стаўка па некаторых з іх не перавышае 12%.

Выкарыстаць грошы на іншыя мэты будзе немагчыма — банк будзе пералічваць сродкі адразу на рахунак прадаўца.

### На аўто

Многія банкі заключаюць дамовы з аўтадылерамі аб ільготным крэдытаванні. Напрыклад, «ТК-Банк» даваў грошы на «Санманды» пад 18% гадавых, праўда, часова прыпыніў выдачу крэдытаў.

«БТА Банк» дазваляе ўзяць грошы на новы аўтамабіль пад 27—29% гадавых, а на аўто з прабегам пад 28—30%.

Падобныя стаўкі ў «Белгазпрамбанка» — 28,5% на новае аўто.

Пад 29% дае грошы і «Беларусбанк». Пры набыцці новай машыны ў салоне крэдыт можна атрымаць на 7 гадоў. За машыну з прабегам давядзецца вярнуць грошы за 5 гадоў.

### На навучанне

Адразу некалькі банкаў прапануюць аплаціць студэнтам іх вучобу.

У «Беларусбанку», калі вы атрымліваеце першую адукацыю на дзённым аддзяленні, крэдыт можна ўзяць пад 23,5% гадавых. Аддаваць іх давядзецца за 3—5 гадоў пасля атрымання дыплома. Для другой адукацыі альбо для першай завочнай адукацыі стаўка складзе 25,5% гадавых. Згодна з дамовай, выпускнік будзе вяртаць грошы на працягу года.

У «БПС-Сбербанку» стаўка крэдыту на навучанне таксама роўная стаўцы рэфінансавання — 23,5% гадавых. Аддаваць грошы — пасля сканчэння вучобы. У «Белінвестбанка» ўмовы вяртання падобныя, але стаўка складае 29% гадавых.

### На ўстаноўку помніка

Такі сацыяльны крэдыт прапануе толькі «Беларусбанк». Грошы можна ўзяць усяго пад 11,75% гадавых тэрмінам на 1 год. Зноў-такі, у рукі іх не дадуць — пералічаць на рахунак трэціх асобаў. Пры афармленні давядзецца паказаць пасведчанне аб смерці блізкага чалавека.

### На лячэнне

Такі крэдыт можна ўзяць на 2 гады ў «Беларусбанку», каб набыць лекі для сябе і членаў сям'і, а таксама палячыць зубы, адкарэктаваць зрок, зрабіць пластычную аперацыю... Стаўка выгадная — 11,75% гадавых. Для афармлення крэдыту трэба прадаставіць дамову на медыцынскае абслугоўванне і даведку аб знаходжанні на дыспансерным уліку.

**Ягор Марціновіч**

Некаторыя прыватныя банкі прапануюць «мэтавыя» крэдыты — на адпачынак, на вяселле, нават на рамонт. Вось толькі стаўка па іх удвая вышэйшая, чым у звычайных спажывецкіх крэдытаў. Напрыклад, «МТБанк» пазычае грошы на арганізацыю вяселля… больш чым пад 70% гадавых!



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

# Кіраўніцтва справаў прэзідэнта адкрыла самы вялікі рэстаран Мінска

Новы «Лідо» разлічаны на 670 чалавек.

На сталічным Камароўскім рынку Кіраўніцтва справаў прэзідэнта адкрыла новы рэстаран самаабслугоўвання «Лідо». Яго будаўніцтва пачалося ў 2010 годзе на месцы былой сталовай завода імя Арджанікідзэ, прычым былі выкарыстаны каркас старога будынка.

У новым рэстаране 650 пасадачных месцаў у некалькіх залах і дзіцячы пакой. Гэта робіць «Лідо» найбольшым рэстаранам краіны. Больш за 400 чалавек могуць яшчэ прымацаць «Мулен Руж», «Застолле» ды «Журавінка».

Зала самаабслугоўвання выглядае замалой — ужо цяпер там збіраюцца чэргі, хоць большасць мінчукоў не ведаюць, што рэстаран адкрыўся.

Рэстаран зроблены нібыта пад старыну, але калі прыгледзецца, можна ўбачыць шмат пластыку. На сценах — тэлевізары, якія транслююць папсу з «БелМузТБ». У старым «Лідо» круцілі іншую музыку, часта гучалі «Песняры».

Брэнд «Лідо» ў Беларусі належыць непасрэдна Кіраўніцтву справаў прэзідэнта. Гунарс Кірсанс, уладальнік аднайменнай латвійскай сеткі хуткага харчавання, у 2004 адкрыў рэстаран на плошчы Якуба Коласа ў Мінску. Неўзабаве адзіным уласнікам «Лідо», якое пераўтварылася ў рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства, стала Кіраўніцтва справаў прэзідэнта. За брэнд Кірсансу былі заплачаныя немалыя грошы — каля $1,5 мільёна.

**ЯМ**

МЕНЮ «ЛІДО»

| | |
|---|---|
| Салат з гародніны з марской капустай, 120 г | 11 400 рублёў. |
| Суп грыбны, 430 г | 10 300 рублёў. |
| Вараная бульба з кропам, 150 г | 4000 рублёў. |
| Курынае філе з сырам і памідорамі, 160 г | 29400 рублёў. |
| Дэсерт «Клубнічны смак», 100 г | 11 550 рублёў. |
| Сок, 250 г | 5500 рублёў. |
| Усяго за абед: | 72150 рублёў. |


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

# Людміла Пуціна пра сваё нешчасліваае жыццё

Прэзідэнт Расіі развёўся з жонкай **пасля 30 гадоў шлюбу**.

Размовы пра тое, што прэзідэнт Расіі Уладзімір Пуцін не жыве з жонкай, хадзілі даўно. Сёлета на Вялікдзень ён з'явіўся ў царкве поруч з мэрам Масквы, чым выклікаў хвалю кпінаў у інтэрнэце. І вось 6 чэрвеня пара Пуціных раптам афіцыйна пацвердзіла: развод.

Да апаратараў дзяржаўнага тэлебачання Уладзімір і Людміла выйшлі пасля балета «Эсмеральда». Відавочна, гэта была хатняя загатоўка. «Кожны з нас жыве сваім жыццём, шлюб вычарпаў сябе, мы практычна не бачымся, — сказала цяпер ужо былая першая лэдзі. «Гэта супольнае рашэнне», — удакладніў прэзідэнт. Калі галоўнае было прамоўлена, Пуціны сталі выглядаць трохі больш разняволена.

Як будавала адносіны сям'я Пуціных? Адказ на гэтае пытанне могуць даць толькі самі Людміла і Уладзімір. Адзін з расійскіх блогераў сабраў цытаты жонкі прэзідэнта з кнігі Алега Блоцкага «Уладзімір Пуцін: дарога да ўлады», апублікаванай яшчэ 10 гадоў таму. Гэтыя прызнанні красамоўна характарызаюць асобу кіраўніка Расіі.




### Паступова прывыкла і закахалася

...Выдатна памятаю першую сустрэчу з бацькамі Уладзіміра Уладзіміравіча... Ён толькі-толькі набыў самую модную ў той час стэрэасістэму "Расія" і з гэтай нагоды паклікаў мяне і яшчэ двух сяброў... Потым, памятаю, я выйшла на кухню, і там была мама Уладзіміра Уладзіміравіча — Марыя Іванаўна. Мы завялі гутарку пра нешта, і тут адзін з сяброў заходзіць на кухню і пытаецца ў Марыі Іванаўны: «Як Вам Люда?» А тая адказвае: «Так, вядома, яна нічога. Але ў яго ўжо была Люда. Добрая дзяўчынка...» І далей усё ў тым жа духу.

У мяне ледзь слёзы з вока не пырснулі... Не буду таіць, мне тады было вельмі непрыемна, балюча і крыўдна...

Калі казаць пра пачуцці, дык гэта не было імгненным захапленнем. Упершыню ў маім жыцці я паступова закахалася ў чалавека. Паступова прывыкла і закахалася.

### «Зморам мяне браў, зморам»

...Спатканні — гэта асаблівая гісторыя. На іх я ніколі не спазнялася, а Уладзімір Уладзіміравіч — пастаянна. Паўтары гадзіны — гэта была звычайная рэч. Але, ведаючы гэта, я не магла прыходзіць са спазненнем. А раптам, думала я, сёння ён з'явіцца своечасова.

Памятаю, стаю ў метро. Першыя пятнаццаць хвілін спазнення вытрымліваю нармальна, паўгадзіны — таксама быццам бы нічога. Але калі ўжо гадзіна праходзіць, а яго ўсё няма, дык проста плачаш ад крыўды. А праз паўтары гадзіны ўжо наогул не адчуваеш ніякіх эмоцый...

Спазненні заўсёды тлумачыліся працай, на якой, дарэчы, Уладзімір Уладзіміравіч быў пунктуальны. А ў асабістым жыцці ён расслабляўся. Ну а дзе яшчэ?..

### «Увесь час трэба было з нечым змагацца»

Калі казаць пра Чорнае мора, дык упершыню разам з Уладзімірам Уладзіміравічам мы паехалі ў Судак улетку 1981...

Я там гатавала, таму што Уладзімір Уладзіміравіч спрэс адмаўляўся хадзіць у сталовыя. У крамах было пуста, і прадукты даводзілася купляць на рынку, дзе цэны былі дастаткова высокімі. Даводзілася ўхітрацца, нешта там купляць і пры гэтым не дужа траціць грошы.

У паездку Уладзімір Уладзіміравіч узяў падводную стрэльбу, ласты, маску і матрац. Мора знаходзілася далёка ад дома — прыкладна за паўгадзіны хады. Там быў невялікі паўвостраў. З берага на яе было складана прайсці, асабліва са стрэльбай. Прасцей было дабрацца ўплаў. А я ў той момант толькі трымалася на вадзе, ды і то з вялікай цяжкасцю. Плаваць навучылася пазней. І вось на гэтым матрацы, рызыкуючы сваім жыццём, я перабіралася на астравок. Валодзя плыў побач.

Днём бязлітасна скварыла сонца, і схавацца не было дзе — адно каменне навокал. Я тады моцна абгарэла, і потым скура з пляччэй проста аблезла. А Уладзімір Уладзіміравіч больш за гадзіну прасядзеў пад вадой са стрэльбай, пакуль не задрыжаў ад холаду. Ён усё спрабаваў рыбу падстрэліць.

І раптам бачу: выныравае шчаслівы, а ў руках — страла, на якой б'ецца невялікая рыбка — сантыметраў дваццаць. Прычым з такім пераможным выглядам выныравае. Вось такая ў нас была здабыча.

Ужо не памятаю, як атрымалася, што назад паплыла адна. Уладзімір Уладзіміравіч пайшоў па беразе, а я пабаялася, таму што там быў вельмі вузкі праход у скале. Мабыць я сказала, што перабяруся ўплаў. Тады Валодзя дае стрэльбу і пытаецца:

— Даплывеш?

Стрэльба ў вадзе мне падалася лёгкай.

— Так, — адказваю.

Але калі я няўмела паплыла, падняўшы стрэльбу над галавой, дык з жахам зразумела, што яна вельмі цяжкая і мне, напэўна, не даплысці. У той момант мяне ахапіла такая паніка, што я і не памятала, як усё ж такі даплыла. Пазней я наогул не магла зразумець, якім чынам дабралася да берага.

Так што заўсёды складваліся сітуацыі, якія не давалі расслабляцца. Увесь час трэба было з нечым змагацца: лыжамі, гарамі, вадой.

### «Я толькі і раблю, што чакаю яго. Па-іншаму не ўмею»

Уладзімір Уладзіміравіч мне пра сваю працу зусім нічога і ніколі не расказваў. На маё дзяжурнае пытанне: «Ну як, чым сёння займаўся?», ён заўсёды так жа звыкла аджартоўваўся: «Да абеду лавілі, пасля абеду адпускалі». І ўсё...

Дарэчы, сам Уладзімір Уладзіміравіч мне так і не сказаў, што ён афіцэр КДБ. Калі пазнаёміліся, паведаміў, што працуе ў крымінальным вышуку, і я была ў гэтым упэўненая цэлых паўтара года... У мяне была сяброўка, жонка прыяцеля Уладзіміра Уладзіміравіча, я менавіта ад яе даведалася, што ён працуе ў КДБ... Думаю, што яна гэта зрабіла паводле даручэння. Трэба ж было Уладзіміру Уладзіміравічу неяк выйсці з сітуацыі. Вось ён і выбраў такі спосаб.

Пасля падобнай навіны адчуванні аказаліся не з прыемных... У той момант гэта быў сігнал, што мне ўсё яшчэ не цалкам давяраюць. Пасля размовы з сяброўкай я спытала Уладзіміра Уладзіміравіча: маўляў ці так гэта? І ён адказаў: так, гэта так.

Потым адбыўся адзін выпадак, які памятаю да гэтага часу. Справа была такая. Мы дамовіліся з Уладзімірам Уладзіміравічам, што я яму патэлефаную а сёмай увечары. У камуналцы на Васільеўскім не было тэлефона, і я хадзіла тэлефанаваць з аўтамата. Цягам паўтары гадзіны я хадзіла і тэлефанавала, таму што Валодзя дома з'явіўся толькі а палове на дзявятую.

Пацямнела. І вось у прыцемках я ў чарговы раз выйшла да аўтамата, безвынікова патэлефанавала і вяртаюся назад. Раптам бачу — бяжыць за мной малады чалавек. Вуліца пустая. А мне трэба ўвайсці ў арку, праз якую трапляеш у двор-калодзеж, і толькі з яго ўваходзіш у пад'езд. Я прыбаўляю крок. Ён паскарае крок — і я таксама. Ён пабег — і я бегчы.

І тут ён мне крычыць: «Дзяўчына, пачакайце, я нічога дрэннага не зраблю. Толькі хачу з вамі пагутарыць. Усяго дзве секунды». Прычым досыць шчыра крычыць. Што называецца — ад сэрца. Я спынілася, а ён падбягае і кажа: «Дзяўчына, гэта лёс. Гэта лёс! Як бы я хацеў з вамі пазнаёміцца!» Адказваю: «Што вы, які лёс!» — «Ну, калі ласка, вельмі прашу, дайце мне ваш тэлефон» — «У мяне няма тэлефона». — «Тады запішыце мой». — «Не буду. Мне вельмі шкада, але гэта ўсё ж такі не лёс». Павярнулася і пайшла.

Тады зусім не думала, што гэта магло быць нейкай праверкай. Але потым, калі даведалася, што Уладзімір Уладзіміравіч працуе ў КДБ, успомніла той выпадак. Я шмат разоў яго пра гэта пыталася, але ён кожны раз ухіляўся ад адказу. Так да гэтага часу не ведаю, што гэта было — праверка ці проста спроба нейкага маладога чалавека са мной пазнаёміцца.

Я ніколі не злавала на працу Уладзіміра Уладзіміравіча. Праца ёсць праца. Злавалася і крыўдзілася, чаму ён мог сказаць, што будзе, дапусцім, а дзявятай, і не прыйсці ў гэты час. Але і гэта яшчэ паўбяды. Муж ніколі неператэлефаноўваў, каб паведаміць, на колькі затрымліваецца. Бо ў мяне былі планы на вечар. Можа, не такія насычаныя і важныя, але тым не менш яны былі заўсёды. І калі муж казаў, што прыйдзе дадому ў дзевяць, а прыходзіў у дванаццаць, то ўсе тры гадзіны я не магла знайсці сабе месца, я чакала. А няма ж нічога больш пакутлівага, чым чакаць і даганяць. Я толькі і раблю, што чакаю яго. Па-іншаму не ўмею...

### «Выбару няма, і дачушка ўсё роўна будзе Машай»

Я заўсёды падпарадкоўвалася пажаданням Уладзіміра Уладзіміравіча. Менавіта ён параіў паступіць на іспанскае аддзяленне пасля заканчэння рабфака... Потым Валодзя кажа: «Ты б заадно скончыла курсы машынапісу»... Пад казырок — і на курсы машынапісу. А гэта якраз чацвёрты курс, калі я была цяжарная Машай...

Калі нарадзілася Маша, то на другі ці трэці дзень я яму патэлефанавала, каб даведацца яго меркаванне адносна імя. Я заўсёды хацела, каб дзяўчынку назвалі Наташай. У мяне была сяброўка Наташа, і ўвогуле, вельмі падабалася гэтае імя. А Уладзімір Уладзіміравіч сказаў: «Не, яна будзе Машай».

Я — у слёзы. Мне хацелася, каб была Наташа. Аднак потым зразумела, што выбару няма, і дачушка ўсё роўна будзе Машай. Тады я пра сябе падумала: «Добра. Бо і маю любімую цётку таксама звалі Машай»...

Літаральна дні праз тры Уладзімір Уладзіміравіч з'ехаў. Паколькі ён не займаўся пялёнкамі, прадуктамі, гатаваннем сняданкаў, абедаў, вячэраў, то мне стала нават лягчэй пасля яго ад'езду, таму што трэба было клапаціцца аб мужы і дзіцяці, а так у мяне засталася толькі Маша...

...Калі прыехала ў Дрэздэн, то была на сёмым месяцы цяжарнасці. Пры гэтым ні разу не хадзіла да доктара — усё не было часу. Памятаю, пайшлі мы да лекара, і ён так мяне лаяў, так лаяў. Высветлілася, што ў мяне вельмі нізкі гемаглабін. А з чаго яму быць высокім?

Уявіце: я, цяжарная Кацяй на сёмым месяцы, Маша — на адной руцэ, сумку з прадуктамі — у іншую, і пешшу на шосты паверх. А тут на лесвічную пляцоўку другога паверха выходзяць муж з жонкай і бачаць, як я караскаюся наверх. Нямая сцэна. У мужчыны вочы становяцца вялікімі-вялікімі. Ён толькі і змог, што выдыхнуць: «Люда, ну хіба так можна?» Затым мужчына хапае Машу, сумку і падымае іх на шосты паверх. Але ж гэта было аднойчы. А ў мяне штодня такіх паходаў выходзіла мінімум тры. Потым, ведаю, сусед некалькі разоў казаў мужу: «Валодзя, трэба дапамагаць. Трэба дапамагаць, Валодзя!»

Але гэта не мела асаблівага ўздзеяння, бо ва Уладзіміра Уладзіміравіча быў прынцып: жанчына ў хаце ўсё павінна рабіць сама. Таму ён ніколі не браў ніякага ўдзелу ў хатняй гаспадарцы...

# Ці пакараюць за няўзгоднены ламінат?

Чыноўнікі прыдумалі яшчэ адну **невыканальную пастанову**.

Змяніць лінолеум на ламінат альбо паркет без дазволу мясцовых уладаў цяпер нельга. Гэта вынікае з тэксту пастановы Савета Міністраў №384 ад 16 мая 2013. Яна была апублікаваная 21 мая, і з гэтага дня правілы правядзення перапланіроўкі сталі больш жорсткімі.

Напрыклад, каб атрымаць дазвол на ўстаноўку шклопакетаў, трэба ўзгадніць свае дзеянні з ЖЭСам і галоўным архітэктарам раёна. У такой сітуацыі дастаткова на плансхеме намаляваць малюнак вокнаў, якія плануецца паставіць. Калі ж змяняць «канструкцыю падлогі», то патрэбная распрацоўка праекта.

У выпадку, калі перапланіроўка будзе прызнаная самавольнай, гаспадарам пагражае штраф — ад 1 да 3 мільёнаў рублёў. Вось толькі як ЖЭС даведаецца, што замест каўраліну на падлозе з'явілася паркетная дошка, калі законнае права гаспадара — не пускаць правяраючых у кватэру?

У крайнім выпадку заўсёды ёсць аргумент: «Памяняў падлогу якраз перад 21 мая!» У такой сітуацыі шансы на атрыманне штрафу будуць мізэрнымі.

Зрэшты, гэта не адзінае правапарушэнне, за здзяйсненне якога беларусы не атрымліваюць пакарання. «Наша Ніва» сабрала пяць тыповых сітуацый, калі грамадзяне парушаюць закон, але да штрафаў ці іншай адказнасці не прыцягваюцца.

### Металічныя дзверы

Штраф за незаконную ўстаноўку — да 3 мільёнаў рублёў.

Палажэнне аб перапланіроўцы, прычым даволі строгае, існавала і раней. І парушалася яно пастаянна. Напрыклад, пры ўстаноўцы металічных дзвярэй. Большасць з іх адчыняецца не ўнутр кватэры, як было са старымі дзвярыма, а на вонкавы бок.

Па-першае, у такім выпадку дзвярная каробка ўсталёўваецца ў іншым месцы, таму кватэра павялічваецца на дзясятак квадратных сантыметраў. Ці замаўляў нехта ў такім выпадку новы абмер плошчы кватэры і змяняў пасля тэхнічны пашпарт? У бліжэйшым ЖЭСе такому пытанню здзівіліся: заявак ніколі не паступала.

Па-другое, калі справа раптам дойдзе да суда, будзьце гатовыя да фармулёўкі наконт таго, што абноўленыя дзверы «парушаюць запраектаваныя планіровачныя рашэнні тамбура, якія забяспечваюць бяспечную эвакуацыю». Гэта рэальная фраза з заключэння паказальнага суда, які адбыўся ў Мінску над сям'ёй з вуліцы Несцерава. Пенсіянерка пасварылася з суседзямі і падала на іх у суд за няправільна ўстаноўленыя дзверы. Яна дайшла да Вярхоўнага суда і даказала сваю рацыю! Суседу загадалі вярнуць дзверы ў ранейшы стан.

Дзясяткі тысяч іншых «правапарушальнікаў», якія жывуць у кватэрах з дзвярыма, якія адчыняюцца на вонкавы бок, застаюцца непакаранымі.

### Паленне ў грамадскіх месцах

Штраф — да 400 тысяч рублёў за паленне ў грамадскіх месцах, да 3 мільёнаў рублёў за паленне ў пад'ездах.

Міністэрства аховы здароўя спрабуе заканадаўча пашырыць межы існуючых «зонаў без тытуню». У бліжэйшых планах — канчатковая забарона курэння ў барах і рэстаранах.

Сярод самых папулярных забароненых месцаў для курэння — пад'езды дамоў. Дыміць у сябе ў кватэры курцы не хочуць, а выходзіць у двор ім лянотна. Вось і спыняюцца ў пад'ездах. За гэта можа пагражаць штраф памерам 1—3 мільёны рублёў. Каб давесці справу суседа да суда, трэба пастарацца — у прыватнасці, знайсці сведкаў. Зрэшты, некалькі паказальных працэсаў сёлета ў Мінску адбылося. Курыльшчыкі Маскоўскага раёна атрымалі мінімальныя штрафы і паабяцалі больш не парушаць грамадскі парадак.

А вось за паленне ў электрычках, прычым і ў тамбурах, штраф складае да 400 тысяч рублёў. Статыстыкі пра колькасць злоўленых курцоў у міліцыі няма.



Дзясяткі кандыцыянераў і спадарожнікавых талерак працягваюць вісець на дамах, нягледзячы на забароны.

### Нецэнзурная лаянка

Штраф — да 3 мільёнаў рублёў.

Штраф за брыдкаслоўе як від дробнага хуліганства складае ад 200 тысяч да 3 мільёнаў рублёў, аднак накладаюць яго пераважна на незадаволеных дзейнасцю ўлады. Хочаце пачуць нецэнзуршчыну — заходзьце у міліцэйскі пастарунак. Прычым лаяцца там не затрымаўныя, а самі прадстаўнікі ўлады. Маты ў іх гаворцы могуць падмяняць любыя іншыя словы.

Зрэшты, крэпкія словы даводзіцца чуць і ад «штацкага» насельніцтва. Калі да кожнай п'янай кампаніі прыставіць па кантралёру, які будзе выпісваць штрафы, бюджэт краіны будзе стабільна папаўняцца.

### Выгул сабак

Штраф за выгул у забароненым месцы — да 1 мільёна рублёў.

Правілы ўтрымання хатніх сабак і катоў забараняюць выгульваць жывёл на прыдамавых тэрыторыях, не кажучы пра тэрыторыю школ, паркаў ды разнастайных грамадскіх месцаў. Па ўсім Мінску ёсць каля 100 дазволеных месцаў для выгулу, але нават каб трапіць да іх, сабаку трэба правесці праз прыдамавую тэрыторыю. Складанасць выканання закона спрашчаецца рэдкасцю пакарання. Колькасць пратаколаў, складзеных летась у сталіцы, не перавысіла і дзвюх сотняў. Прычым часцяком кантралюючыя структуры абмяжоўваліся папярэджаннямі.

### Шум з кватэры

Штраф — да 3 мільёнаў рублёў.

Правілы карыстання жылымі памяшканнямі безапеляцыйна заяўляюць: з 23 гадзін ночы да 7 гадзін раніцы не павінны здзяйсняцца дзеянні, якія ствараюць вібрацыю і шум. У якасці прыкладаў пералічваюцца гучныя размовы, выкананне рамонтных прац, ігра на музычных інструментах і нават хлопанне дзвярыма. Тымі ж правіламі забараняецца карыстацца тэлевізарамі і магнітафонамі з узроўнем гучнасці, які парушае спакой суседзяў. Правілы правядзення перапланіроўкі дадаюць: рамонтныя працы можна праводзіць толькі ў будния дні, з 9 да 19 гадзін. У выходныя — нельга.

Вось толькі як вымераць узровень шуму? Для гэтага існуе мясцовая санэпідэмслужба. З вынікамі яе замераў можна звяртацца ў міліцыю. Вось толькі ўначы, калі музыка грыміць найчасцей, спецыялісты не працуюць.

Застаецца звяртацца са скаргамі ў ЖЭС, але, калі гучныя суседзі не прызнаюць сваёй віны, пакараць іх будзе вельмі цяжка.

**Ягор Марціновіч**

## Як рабіць перапланіроўку па-новаму?

**Працы, якія патрабуюць распрацоўкі і ўзгаднення праекта з мясцовымі ўладамі:**

- Дэмантаж, устаноўка, замена альбо перанос сістэм вода-, газа-, энергазабеспячэння, ацяплення, вентыляцыі.
- Перанос сушыльніка.
- Змена канструкцыі падлогі.
- Змены ў нясучых канструкцыях.

**Працы, якія патрабуюць узгаднення з мясцовымі ўладамі без распрацоўкі праекта:**

- Разборка існуючых і стварэнне новых перагародак.
- Стварэнне, павелічэнне праёмаў у перагародках.

**Працы, якія можна рабіць без дазволу ўладаў:**

- Устаноўка ці дэмантаж стацыянарных шафаў і антрэсоляў.
- Устаноўка падвясных столяў.
- Устаноўка ці замена міжпакаёвых дзвярэй у межах існуючага праёма.
- Устаноўка ўваходных дзвярэй без змены накірунку іх адчынення.
- Замена разетак, свяцільнікаў, унітаза, ванны, мойкі.
- Устаноўка душавой кабіны замест ванны.
- Устаноўка вентыляцыйных прыбораў.

**Працы, якія патрабуюць узгаднення са спецарганізацыямі:**

- Зашкленне вокнаў, балконаў і лоджый — у ЖЭСе і ўпраўленні архітэктуры.
- Устаноўка ўваходных дзвярэй са зменай накірунку іх адчынення — у ЖЭСе.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Летась за распіццё спіртных напояў было складзена больш за 260 тысяч пратаколаў.

## Як часта беларусы парушаюць парадак?

За 2012 год у Беларусі было выяўлена 2 686 900 адміністратыўных правапарушэнняў — у сярэднім па адным пратаколе кожныя 12 секунд.

**Найбольш часта сустракаліся наступныя правапарушэнні:**

| Правапарушэнне | Колькасць | % |
|---|---|---|
| Перавышэнне хуткасці | 608 400 | 22,6% |
| Парушэнне правілаў эксплуатацыі транспартных сродкаў | 547 000 | 20,4% |
| Парушэнне ПДР пешаходамі | 290 600 | 10,8% |
| Распіццё спіртных напояў у грамадскіх месцах | 262 100 | 9,8% |
| Парушэнне правілаў спынення і стаянкі | 132 500 | 4,9% |
| Дробнае хуліганства | 117 700 | 4,4% |
| Іншае | 728 600 | 27,1% |

# Ахлабысцін гатовы нанесці ядзерны ўдар па Польшчы

Вядомы расійскі акцёр, **пісьменнік і святар** лічыць, што манархія для Расіі — ідэал.



«У эфіры самай ліберальнай радыёстанцыі я абвясціў, што гатовы быць царом. Я да гэтага часу памятаю спалоханыя вочы журналіста «Эхо Москвы», калі я гэта сказаў. Лёгка вазьму на сябе гэтую адказнасць. Тут жа нанясу ядзерны ўдар па Польшчы — адтуль да нас ветрам не данясе. Бесталковая краіна».

Ахлабысціна, нягледзячы на экстравагантнасць поглядаў і паказное франдзёрства, цяжка назваць дысідэнтам ці маргіналам. Наадварот, ён увесь час «у трэндзе»: на тэлеэкранах і ў маскоўскіх тусоўках. У пачатку 90-х ён іграў ветэрана таджыкскага канфлікту («Нага»), у канцы 90-х — гламурнага маскоўскага рэжысёра («Восем з палової даляраў»), у 2010-я — блазна пры Івану Жахлівым і Салаўя-разбойніка — гэткага змагара з самаўпраўствам мясцовай адміністрацыі. Ён добра адчувае, што ў Расіі ў дадзены момант дазволена сказаць і выказаць. А што ў блазна на языку — у цара ў думках.

Што такое ядзерны ўдар? Гэта мільёны забітых, скалечаных людзей, гора, радыяцыя... Такія дзікунскія заклікі немагчыма пачуць з вуснаў найрадыкальнейшых еўрапейскіх палітыкаў. Дзіка ўяўляць такое і з вуснаў дзеяча культуры. А Ахлабысцін жа яшчэ і праваслаўны святар (хай сабе і з забаронай на служэнне).

Рэакцыі Маскоўскага патрыярхата на заяву не было.

**Сяргей Мікулевіч**



**Фотафакт**

**Газета «Каталіцкі веснік» абвесціла конкурс прыгажосці**

«Галоўная мэта конкурсу — паказаць прыгажосць у сціпласці беларускіх дзяўчат», пішуць арганізатары.
**На фота:** Таццяна Дзегцярова з вёскі Дунілавічы.

# Былы палітвязень Уладзімір Яроменак ажаніўся

«Дзеці — толькі **пасля рэвалюцыі!**»



«Былі толькі сябры і родныя. Не хацелі, каб і ў нас, як летась у Міколы Дземідзенкі, былі затрыманні», — сказала Валянціна.

Сведкам з боку Уладзіміра быў таксама былы палітвязень Васіль Парфянкоў, з боку Валянціны — Марта Філіпенка.

«Я сама актывістка. І мне не страшна, што Валодзю часта арыштоўваюць... А папаўненне толькі пасля рэвалюцыі! Мы хочам, каб дзеці выраслі пры лепшай уладзе».

Ладу і шчасця маладым!

**Сяргей Макарэвіч**



**Камертон Сяргея Ваганава**

# Рыбны дзень

«...Ну, жонка, сёння ў нас с табой рыбны дзень!» З гэтым немудрагелістым жартам я дастаў з пакета дзве даволі важкія скрыначкі з фольгі: «Во! «Рыба запечаная па-руску»...

...Хто памятае, хто на тое забыўся, моладзь увогуле не ведае, што мо дваццаць апошніх савецкіх гадоў існавала такая завядзёнка — рыбны дзень. У якім бы кутку СССР ні заспеў вас чацвер, увесь дзень грамадскае харчаванне частавала наведвальнікаў выключна рыбай. Яно, можа, было і няДрэнна, бо рыба — гэта фосфар, а фосфар — гэта розум. І ў пэўным сэнсе можна лічыць, што менавіта рыбны дзень паспрыяў заканчэнню «развітога сацыялізму». Можна нават уявіць сабе, наколькі хутчэй адбываўся б гэты гістарычны працэс, калі б рыбным быў кожны дзень тыдня. Але на тыдзень рыбы наўрад ці хапіла б, бо адзінай рыбай на ўсё грамадскае харчаванне савецкай імперыі быў хек...

...Жонка наблізіла скрыначку з ежай да носа, прамармытала нешта падобнае на «можа і нічога» і сунула ў мікрахвалёўку. Праз якую хвіліну «рыба па-руску» — 47 тысяч 800 за кіло! — была пакладзена на талеркі. Але рыбы там не было...

«Ну, што за дурны дзень гэты чацвер!» — думаў я, зноўку набліжаючыся да крамы, у кулінарыі якой набыў «рыбу...» без рыбы.

Пачаўся ён з Камароўкі — гэтай невычарпальнай крыніцы ведаў пра жыццё як яно ёсць. Найперш ткнуўся ў чаргу за тварагом — найлепшую, калі памалу, ежу для пажылых людзей. Раптам нейкі малады хлопец у пацёртых джынсах і стаптаных сандалях упэўнена абмінае чаргу, раскрывае торбу, а прадавачка падае яму некалькі вялізных бутэлек з хатнім малаком... «Галота! — уздыхае прадавачка. — У яго два старыя на руках, акрамя тварагу мала што ядуць. А дарагА. Дык ведаеце, што прыдумаў? Купляе малако, ахінае каструлю электрагрэлкай... Добры, гаворыць, тварог атрымліваецца...»

Трохі паспрачаліся наконт выгады, і, здзіўлены вынаходніцтвам юнака, я рушыў шукаць сыр — «хай сабе не вельмі танны, але каб смачны, з дзірачкамі!» Шукаю, шукаю... А вось і нейкі «Маасдам», якраз з дзірачкамі. Коштнішто сабе — 92 тысячы. А побач — таксама «Маасдам», па 81-й. «Чаму так?» — пытаюся. — «А вы глядзіце ўважліва. Бачыце? Адзін з Галандыі, другі з Нідэрландаў...» — пашырыла мае геаграфічныя веды прадавачка. «А з Галанскіх вышынь яшчэ не прывозілі?» — «Пакуль не». — «Што ж, пачакаем», — адказаў я і накіраваўся за «Галандскім» з Пружан...

## Ад сёння «Рыба запечаная па-руску» называецца «Бульба...»

Заставаўся кроп, 50 грамаў. У пошуках больш свежага я пайшоў па шэрагах, адкуль дыхалі зялёным водарам гуркі з Пінска, матава блішчэлі незаўважна прымятыя памідоры з Іспаніі, памаранчавым напамінам пра бясконцую рэвалюцыю сачыліся апельсіны з Егіпта і прызыўна ільсніліся цёмна-чырвонымі маслістымі скабамі мясістыя грэцкія клубніцы...

Вось тут я і натыкнуўся на дзіўную карціну.

Прысеўшы на кукішкі, з дзесятак жанчын зусім не бамжаватага выгляду, хутчэй былыя настаўніцы ці доктаркі, ліхаманкава набівалі торбы, пакеты, што ў каго, клубніцамі, выкінутымі на сметнік. Вакол таўкліся ў намаганнях прабіцца да клубніц яшчэ колькі жанчын, а пасярэдзіне ўзвышаўся, нахіліўшыся на бок, кантэйнер, адкуль ужо звальваліся пустыя, з чырвонымі плямамі і рагамі, скрыні...

...Наконт «рыбы па-руску» мы з Жаннай Мікалаеўнай, дырэктаркай крамы, і Святланай Уладзіміраўнай, загадчыцай кулінарнага цэха, даволі хутка знайшлі паразуменне. Яны нават не торкалі відэльцам у свой «рыбны» прадукт, адразу пачалі спужана выбачацца. Але даведацца, колькі рыбы павінна быць у «рыбе...», я на той момант так і не здолеў — кухар раптам аказаўся ў адпачынку, а бухгалтарка разам з паролем ад калькуляцыі трымала недзе іспыты на правы кіроўцы аўто...

Праз дзень Жанна Мікалаеўна падзякавала за падказку і паведаміла, што ад сёння «Рыба запечаная па-руску» называецца «Бульба...»

Нехта, мусіць, чакае ад мяне прозвішчаў, нумара крамы, ганьбавання і нават заявы дзеля распачынання крымінальнай справы. Але, на мой погляд, няма ў гэтых звестках і дзеяннях аніякага сэнсу.

Які сэнс выкрываць дробных злодзеяў, жулікаў і махляроў у краіне, дзе вядома хто набракае грашыма ад гандлю бензінам пад назвай «растваральнікі», а былыя настаўніцы ці доктаркі ледзь не б'юцца за клубніцы са сметніка?!

А мо таму так адбываецца, што згубіўся недзе ў лабірынтах гісторыі рыбны дзень з адмарожаным хекам і няма ўжо як здабываць фосфар, каб наблізіць лепшае будучае?

Фосфар, якога калісьці толькі на тое і хапіла, каб замяніць назву — з «развітога» на «рынкавы»...

*kamerton_41@mail.ru*

**Мы трапілі ў госці да чалавека, які ў свае 25 гадоў мае чатырнаццаць адміністратыўных арыштаў і дзве крымінальныя справы.**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

# Павал Вінаградаў: Прафесійны рэвалюцыянер

Паша Вінаградаў з жонкай Святланай жыве ў аднапакаёвай здымнай кватэры. На падлозе размясціўся «ложак» з коўдраў, засланы вялікай плюшавай скурай мядзведзя, на якім мы і ўладкаваліся. Павал — карэнны мінчук, жыў у дзяцінстве ў раёне Паўднёвы Захад, і з тых часоў арэал пасялення не асабліва змяніўся, як жартуе сам Павал: «Тут у мяне і міліцыя родная».

**«Наша Ніва»: Павал, ты з дзяцінства меў «адносіны» з міліцыяй?**

**Павал Вінаградаў:** Ды не, гэта ўжо ў больш сталым узросце пачалося, і ўвогуле мяне ніколі не затрымлівалі за бойку ці п'янку, усе мае затрыманні маюць палітычны кантэкст. Так выйшла.

**«НН»: А якім тады было тваё дзяцінства?**

**ПВ:** У дзяцінстве любіў гуляць у прыстаўку, тусавацца з пацанамі на лецішчы, дзе пілі таннае вінішка і півандрый. Куды глядзелі бацькі, я не ведаю, таму ў мяне было сапраўднае дзяцінства. Пілі, біліся трошкі, ламалі нейкія платы — звычайнае пацанскае дзяцінства.

**«НН»: Як вядома, твае бацькі глядзелі ў бок фігурнага катання і музычнай школы, куды цябе ў выніку і аддалі.**

**ПВ:** Было такое. Матуля запіхнула мяне ў музычную школу. Пэўна, хацела зрабіць з мяне чалавека, каб я стаў кімсьці, а магчыма, таму, што бацькі калісьці прымушалі яе хадзіць туды ж.

**«НН»: Чаму бацькі вучылі ў дзяцінстве?**

**ПВ:** Гаварыць праўду, у чым я цяпер заўважаю сакральны сэнс.

**«НН»: Дзе твае бацькі цяпер, і як увогуле яны ставяцца да тваёй апазіцыйнай дзейнасці?**

**ПВ:** Матуля ў Палерма. Займаецца там прыгажосцю. Ну як прыгажосцю, запампоўвае ботэкс у вусны і робіць лёгкія касметычныя аперацыі. Ставіцца да маіх адсідак ужо станоўча. Спачатку, канечне, была негатыўна настроеная, а потым, калі пабачыла, што адгаворваць бессэнсоўна, што я стаў «мегавядомай» асобай, дык прыняла ўсё. Бачыць нейкі вынік. Дае мне парады ў некаторых момантах. А тата, скажам так, прадпрымальнік. У Беразіне цяпер. Таксама мне цалкам падтрымлівае. Ехаў на Плошчу-2010, ды не даехаў, бо яго мянты на пад'ездзе ў горад спынілі.

**«НН»: Вядомая гісторыя, што твая бабуля выганяла цябе з дому за бел-чырвона-белы сцяг. Як ты дакаціўся да такога?**

**ПВ:** Было ўсё так: 2006 год, выбары, я павесіў на фіранкі бчб-сцяг, які нават з вуліцы не было відаць, але бабуля сказала, каб я яго зняў ці пераязджаў жыць у іншае месца. А я і сам збіраўся, таму з лёгкасцю прыняў такую долю і з дому сышоў. Спачатку мы з сябрам знялі пакой, а пасля я пачаў жыць на офісе Руху «За Свабоду».

**«НН»: Як цяпер бабуля і дзядуля ставяцца да тваёй актыўнасці?**

**ПВ:** Бабуля — крайне негатыўна. Я дагэтуль не магу ёй растлумачыць, што я не мацюкаюся ў тыя моманты, калі мяне затрымліваюць і складаюць пратаколы. А дзед з цягам часу пачаў падтрымліваць апазіцыю, праўда, адбылося гэта пасля таго, як адмянілі льготы.

**«НН»: Пасля 9 класа ты сышоў са школы і паступіў у каледж на цырульніка. Ці падабаецца гэтая прафесія?**

**ПВ:** Проста стрыгчы мне падабаецца, а вось працаваць цырульнікам — не. Не люблю рабіць простыя стрыжкі, мне хочацца з творчасцю да гэтага падыходзіць. Ну і стрыгу я толькі журналістаў і палітычных актывістаў. Калі хочаце, я магу пастрыгчы, звяртайцеся!

Праз пару хвілін наш фатограф Гудзілін ужо сядзеў ў Пашы на кухні ў чаканні стрыжкі.

У працэсе Павал расказаў аб працоўных залётах, калі аднойчы пераблытаў насадкі і пастрыг чалавека пад нуль: «Але мне пашчасціла, што ён быў п'яны і яму было пофіг».

**ПВ:** На другім курсе я ўжо зразумеў, што цырульнікам не буду, але давучыўся, адпрацаваў свае пару месяцаў і потым вырашыў, што мне гэта не трэба. Бо, па-першае, — гэта жаночы калектыў, які мяне добра напружваў. Па-другое — тады ў дзяржаўных салонах маладыя цырульнікі атрымлівалі 70 даляраў.

**«НН»: Як склаўся лёс пасля каледжа?**

**ПВ:** Спачатку працаваў па прафесіі, а потым не помню, дзе браў грошы. У 2006 годзе ўсё было так рамантычна. Такое падполле, супрацьстаянне, а я такі круты партызан. Цяпер я разумею, што гэта было далёка не так. Рабіў я ўсё нават несвядома, без веры ў ідэі, а проста таму, што было прыкольна. Усведамленне пачалося значна пазней. Таксама быў момант, калі я працаваў стыкероўшчыкам на складзе, зваршчыкам і слесарам.

**«НН»: А цяпер ты дзе-небудзь працуеш?**

**ПВ:** Мая працоўная кніжка ляжыць у дзярждэпе ЗША і польскай разведцы. (Жартуе і смяецца.)

**«НН»: Хапае на жыццё?**

**ПВ:** Не, таму прыходзіцца даставаць грошы з іншых месцаў.

**«НН»: У свой час вы разам з жонкай былі ў адной камандзе ў « Еўрапейскай Беларусі». Вы прыклад той сям'і, якая разам і на «барыкадах стаіць»?**

**ПВ:** Мы разам на вялікія мітынгі ходзім, а на акцыі я яе не бяру. Яна аднойчы таксама «мацюкалася» і на 15 сутак трапіла ў 2008.

**«НН»: А чым яна займаецца?**

**ПВ:** Працуе ў IT-сферы, яна тэсціроўшчык праграмнага забеспячэння. Працуе ў прыватнай кампаніі, усе ведаюць, у тым ліку кіраўнікі, хто яна і хто я. Чытаюць навіны і цікавяцца ў яе што да чаго.

## Супрацоўнікаў Маскоўскага РУУСа я бачу часцей, чым свайго бацьку »

**«НН»: Скажы, калі ласка, навошта на Плошчу-2010 ты ішоў з малатком? Загадзя планаваў ужыць яго?**

**ПВ:** Ну я ішоў будаваць новую Беларусь. А каб будаваць, патрэбны інструмент.

**«НН»: Тады парай, што з сабой варта браць і як трэба быць падрыхтаваным да Плошчы.**

**ПВ:** 1) Шчыток пад куртку, на левую ці правую руку, каб адбіваць дубінку. Калі ёсць магчымасць, то шчыткі на ногі, бо часта б'юць па нагах. 2) Калі зіма, то трэба вельмі цёпла апрануцца. 3) З сабой трэба ўзяць шакалад, туалетную паперу, фанарык, пустыя бутэлькі, каб пасікаць туды, у крайнім выпадку. 4) Лекі: бінты, антыбіётыкі, аспірын, актываваны вугаль. 5) Шалік ці лыжную маску, каб твар прыкрыць. Ні ў якім разе нельга з сабой браць нож ці кастэт. Нельга нікога біць. Абавязкова туды трэба ісці цвярозым, інакш не ідзі ўвогуле.

**«НН»: З такой вялікай колькасцю затрыманняў і арыштаў у Маскоўскім РУУСе цябе, пэўна, усе ведаюць?**

**ПВ:** У пастарунку я самая папулярная персона, там мяне ведаюць усе. Палова РУУСа прыходзіць, каб павітацца са мной. Мы там ужо як браты. Іх я бачу нашмат часцей, чым свайго бацьку, а тым больш матулю. Пытаюцца, што чуваць. Яны ж бачаць, што я чалавек нармальны. І сярод іх ёсць людзі нармальныя, якія там проста працуюць і мяне не чапаюць. Але вось шманаюць мяне вельмі моцна. Заўсёды чакаюць, што я ці тэлефон прынясу, ці дыктафон і запішу іх.

**«НН»: А як бавіш час на Акрэсціна?**

**ПВ:** Размаўляю з сукамернікамі, чытаю, сплю і хаджу туды-сюды. Там добрая атмасфера для развагі. Калі табе трэба падумаць, то гэта, пэўна, найлепшае месца.

**«НН»: Ты можа знайшоў ужо станоўчае ў гэтым усім?**

**ПВ:** Канечне. 1) Калі цябе на свабодзе ўсё задалбала і надакучыла, то можна проста «закрыцца». 2) Там я ўвогуле не ем, то гэта яшчэ і пахуданне. 3) Галава і думкі становяцца больш чыстымі. 4) Ніякага спакушэння ні да алкаголю, ні да чагосьці іншага. Сур'ёзна, там не така дрэнна.

**«НН»: Варта там пабываць?**

**ПВ:** Ну, прынамсі, першыя два разы вельмі карысна. Тады пачынаеш разумець, што ПРОСТА ісці па вуліцы ўжо вялікая каштоўнасць. Там ты пачынаеш разумець, хто ты, бо чалавек праяўляе сябе зусім па-іншаму ў такіх сітуацыях. Там ты бачыш часам жорсткі, часам вар'яцкі свет.

**«НН»: Павал, кім бы ты хацеў быць, каб у цябе не было палітычнага жыцця?**

**ПВ:** Якраз-такі я і хацеў бы быць прафесійным рэвалюцыянерам, толькі каб за гэта плацілі шмат грошай. Быць прафесійным рэвалюцыянерам даволі цікава.

**«НН»: Ты лічыш сябе рэвалюцыянерам?**

**ПВ:** Так, я прафесійны рэвалюцыянер. Гэта перакананні і прафесія.

**Гутарыла Вольга Гарапучык**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Павал Вінаградаў**

нарадзіўся 24 красавіка 1988 у Мінску. Актывіст «Гавары праўду» і лідар моладзевай ініцыятывы «Zмена».

# Касцёр за $660 тысяч: у аварыі згарэў «Бэнтлі» мільянера Арбузава?

Адзіным вінаватым можа аказацца **студэнт з Мёраў**?

Аварыя адбылася за шэсць кіламетраў ад Нацыянальнага аэрапорта. 6 чэрвеня ў 23.50 «Бэнтлі-Кантыненталь GT» урэзаўся ў «Фальксваген-Пасат», пасля яго кінула на «Аўдзі С4», «Фальксваген-Джэта» і «Хонду-Акорд». «Бэнтлі» загарэўся, але кіроўца і пасажыр паспелі выскачыць. Па шчаслівым супадзенні, ніхто не загінуў.

Усё адбылося на ўчастку дарогі, дзе стрытрэйсеры праводзяць нелегальныя гонкі. Акурат у тую ноч яны таксама наладзілі спаборніцтвы — вакол дарогі стаялі дзясяткі гледачоў. А з боку аэрапорта нёсся «Бэнтлі»... У гонках ён не ўдзельнічаў, але хуткасць меў звышвысокую. Па словах відавочцаў, пад 250 км/г. На тым участку дазволена ехаць 120 км/г.



DELFI.LT

**Гэты ж «Бэнтлі» на высачэзнай хуткасці засвяціўся ў Эстоніі.**



**Аўто выгарала дашчэнту. А пасля аварыі многія кінуліся марадзёрнічаць. Камусьці дастаўся знак з лагатыпам дарагога аўто.**

## Не ў той час не ў тым месцы

Кіроўца «Фальксвагена» Ілья, 22-гадовы студэнт Універсітэта фізкультуры з Мёраў, які прыехаў паглядзець гонкі, тым часам вырашыў ехаць дадому. Ён упэўніўся, што дарога пустая, развярнуўся наўпрост праз раздзяляльную паласу (грубае парушэнне правілаў!) і пачаў патрохі разганяцца ў левай крайняй паласе. Убачыць у цемры «Бэнтлі», які на шалёнай хуткасці з'явіўся зніадкуль, Ілья, відаць, не здолеў. Кіроўца дарагога аўто паспрабаваў аб'ехаць студэнта на «Фальксвагене» справа, але не паспеў, пратараніўшы яго.

«Я тую машыну ў аэрапорце яшчэ заўважыў — рэдкае аўто, — расказаў адзін з пацярпелых у аварыі, уласнік «Хонды». — Я сустракаў знаёмую. Падчас аварыі пачуў хлапок, тармазы, і нас выкінула з дарогі ў лес метраў на пятнаццаць. Я паспеў ад'ехаць ад першага сутыкнення дзесьці на кіламетр. Мая хуткасць была 100 км/г. Відаць, «Бэнтлі» ехаў больш за 200 км/г. У яго пры сутыкненні з «Фальксвагенам» адваліліся колы, і мяне даганяў ужо на пузе».

«Хонда» пацярпела моцна: уласнік не ўпэўнены, што яе можна аднавіць. Кіроўца і пасажырка пацярпелі менш. Хоць дзяўчына і звярнулася ў бальніцу з расцяжэннем цягліцаў. Але кіроўца не лічыць мэтазгодным выстаўляць прэтэнзіі да бізнэсоўца. Маўляў, нідзе не зафіксавана сапраўдная хуткасць «Бэнтлі», а таму даказаць штосьці будзе складана.

«Я спытаўся ў ДАІшнікаў, ці будзе следчы эксперымент. Сказалі, што і так усё відавочна: «Фальксваген» не прапусціў «Бэнтлі», — расказвае ўласнік «Хонды». Сітуацыя выглядае неадназначнай. Падобны выпадак адбыўся ў Мінску летась. Тады міліцэйская машына ўначы выязджала на праспект Незалежнасці і не прапусціла матацыкліста. Ён загінуў на месцы аварыі. Але вінаватым прызналі менавіта матацыкліста, бо ён істотна перавышаў хуткасць і міліцыянты не мелі магчымасці ўбачыць яго. Розніца з цяперашняй сітуацыяй у тым, што студэнт перад аварыяй таксама груба парушыў правілы.

Кіроўца «Фальксвагена-Пасата» не хоча размаўляць пра аварыю. Спасылаецца на шок, ад якога яшчэ не адышоў. І шукае сведкаў здарэння. Бо яго выстаўляюць адзіным вінаватым: разварочваўся на раздзяляльнай паласе, не прапусціў «Бэнтлі». Перспектыва сплачваць некалькі сотняў тысяч даляраў не радуе.

## Чый «Бэнтлі»?

«Бэнтлі-Кантыненталь GT» — гэта звышдарагая люксавая машына. Усяго было выпушчана 24 аўто гэтай серыі — коштам каля $530 тысяч. У канкрэктна таго аўтамабіля, які згарэў, былі яшчэ палепшаныя інтэр'ер і рухавік. Агульны кошт гэтага «Бэнтлі» складае каля $660 тысяч.

У Беларусі такіх некалькі, адзін з якіх належыць бізнэсоўцу Віталю Арбузаву. Чалавека, падобнага да яго, і пазнаў кіроўца «Хонды» на месцы аварыі.

Паводле інфармацыі ДАІ, за рулём машыны быў кіроўца, 1968 года нараджэння. Але Арбузаў на два гады старэйшы. Магчыма, з аэрапорта яго вёз кіроўца.

## Засвяціўся ў Эстоніі?

Па словах кіроўцы «Хонды», калі аўто згарэла, да яго кінуліся разграбаць попел. Хто што змог, прыхапіў з сабой. У аднаго з мужчын у «Бэнтлі» абгарэў гаманец. Калі ж дастаў яго, грошай не было, але засталіся дакументы. Відаць, хтосьці не пагрэбаваў і абпаленымі купюрамі. А ў інтэрнэце адзін са сведкаў выклаў фота знака з лагатыпам люксавага аўто — паспеў выцягнуць, пакуль уласнік не бачыў.

Па тых частках, якія засталіся ад «Бэнтлі», знаўцы дарагіх машын пазналі аўтамабіль, які тры гады таму засвяціўся ў Эстоніі. Паліцэйскія каля горада Пярну спынілі «Бэнтлі» з беларускімі нумарамі на хуткасці 241 км/г. 42-гадовы беларус (выглядае, што таксама асабісты кіроўца Арбузава) прызнаў віну і патлумачыў, што спяшаўся на важную сустрэчу.

Дарэчы, аварыі з удзелам «Бэнтлі» для Беларусі не навінка: яны перыядычна здараюцца на вуліцах Мінска. Але самая гучная да гэтага была звязаная з былым галоўным трэнерам хакейнага клуба «Юнацтва» і зборнай Беларусі Міхаілам Захаравым. У чэрвені 2011 ён на «Бэнтлі Кантыненталь» сутыкнуўся з «Лексусам» на праспекце Пераможцаў. Захараў, як высветлілася, быў п'яным. Яго пазбавілі правоў на тры гады і прысудзілі да штрафу.

**Сяргей Макарэвіч**

### Дакраніся да мары

У Мінску «Бэнтлі» — не распаўсюджаная марка аўто. Але любы ахвочы можа на ім праехаць. За грошы, безумоўна. Некалькі фірм здаюць аўто ў арэнду. $80—120 за гадзіну. «Мы даём магчымасць дакрануцца да мары», — так пазіцыянуюць сваю працу ў адным са сталічных салонаў пракату.

А ўжо летам у Мінску павінна адчыніцца першае дылерскае прадпрыемства вядомай брытанскай аўтамабільнай маркі. Генеральным імпарцёрам «Бэнтлі» стане СП «Аўтасалон-AV».


TUT.BY

### Хто такі Віталь Арбузаў?

Нарадзіўся ў 1966 у Краснаполлі Магілёўскай вобласці. Выпускнік БНТУ (БДПА). Уласнік кампаніі Fenox Automative Gmbh — холдынга па выпуску аўтакампанентаў. У кантраляваную ім групу ўваходзяць 12 заводаў у Беларусі, Расіі і Германіі. Валодае сеткай харчовых супермаркетаў «Прэстан», будаўнічымі кампаніямі. Мае актывы ў Вялікабрытаніі, Даніі, Сінгапуры. Адзін з найбагацейшых беларусаў. У рэйтынгу самых уплывовых людзей краіны па версіі «Нашай Нівы» займае 67-ю пазіцыю.

## Сцісла

### У бальніцы загінула немаўля

Хлопчык нарадзіўся 7 сакавіка, а ўжо 21 сакавіка трапіў у Віцебскую дзіцячую абласную бальніцу. Па словах бацькоў, сыну там не абследавалі жывот, хоць выглядала на праблемы з ім. І выпісалі. А праз дзень яму зноў стала кепска. У выніку дзвюх аперацый хлопчыку выдалілі ўвесь тонкі кішэчнік і 1/3 частку тоўстай кішкі. Праз два месяцы ён памёр. Заведзеная крымінальная справа супраць медыкаў за неналежнае выкананне прафесійных абавязкаў.

### Ветлівы рабаўнік

Туркменскі студэнт спрабаваў абрабаваць шапік на прыпынку ў Гомелі. Калі прадавачка зачыняла крамку, хлопец прыставіў да яе жывата металічную трубку — нібыта пісталет. Запатрабаваў грошы з касы. Шакаваная жанчына закрычала, а нападнік прашаптаў «прабачце» і збег. Як высветлілася, такім спосабам ён хацеў разлічыцца з даўгамі.

### Чужы «Мерсэдэс» здаў на металалом

30-гадовы работнік сталічнага ЖЭСа ўбачыў стары «Мерсэдэс» на ўзбочыне каля МКАД. Падумаў, што нядбайны гаспадар не будзе шукаць машыны, калі яна знікне. Круціла вывез аўто, разабраў і здаў на металалом. Зарабіў на гэтым 600 тысяч рублёў. Але гаспадар «Мерсэдэса» звярнуўся ў міліцыю. Зніклае аўто ацанілі ў 33 мільёны рублёў. Пры невысокіх ЖЭСаўскіх заробках выплачваць такія грошы мінчуку давядзецца гадамі.

### Абдурылі банкаматы

Двое магілёўцаў усяго за некалькі дзён па падробных картках знялі ў банкаматах Гродна каля 90 мільёнаў рублёў. Яны карысталіся падробленымі карткамі банкаў Расіі і Казахстана, але здымалі грошы з рахункаў рэальных людзей.

**КМ**

## Вышук



**23-гадовы мінчук** папрасіў сямейную пару ўзяць на сябе мабільнікі і планшэты ў растэрміноўку і крэдыт. Ён сам зрабіў першыя ўнёскі, а за турботы заплаціў па 200 тысяч рублёў. Пара аформіла такім чынам гаджэтаў на 50 мільёнаў. Мінчук жа іх адразу прадаў, а па крэдытах не плаціў.

Хто пацярпеў ад мінчука на фота, звяртайцеся ў Цэнтральнае РУУС Мінска на: (017) 288-02-02, (029) 288-79-13.



**Людміла Ціханкова, 1974 года нараджэння,** 6 мая выйшла з дому і не вярнулася. Прыкметы: рост 166 см, вочы шэра-блакітныя, светлыя валасы. Была апранута: джынсы завужаныя, шэрыя балеткі, пры сабе мела чорную сумку.

Хто валодае інфармацыяй пра месцазнаходжанне Ціханковай, паведамляйце на (033) 666-68-56.

# Аляксандр Чахоўскі: Бізнэсовец, які прадзюсуе оперы

У Мінску прэзентавалі **Verbum Nobile** Манюшкі.

У апошнія дні вясны мінскай публіцы прэзентавалі твор славутага Станіслава Манюшкі, які ніколі раней у Беларусі не ставіўся. Камедыйная опера Verbum Nobile («Слова гонару») была створаная славутым мінчуком у 1861-м, у духу вадэвіляў ды пастараляў, якія пісаў у тыя гады Дунін-Марцінкевіч. Гэта гісторыя кахання маладога шляхціца Станіслава і дачкі пана Лагоды. Перашкаджае іх шчасцю бацька дзяўчыны, які збіраецца аддаць яе замуж за другога і ўжо нават замацаваў гэтае рашэнне шляхецкім «словам гонару»...

Зала была поўная. Пастаноўка тэатра «Галерэя» ў Палацы прафсаюзаў сабрала вельмі розную публіку: ад студэнтаў-хіпстараў да сталага веку аматараў акадэмічнай музыкі.

Відаць, пастаноўшчыкі знайшлі ключык да патэнцыйнай аўдыторыі: дынамічная камедыйная опера ў адным акце, напісаная беларусам, у суправаджэнні камернага аркестра. Магчыма, такія пастаноўкі змогуць прывесці «латэнтную» аўдыторыю акадэмічнага мастацтва ў тэатр.

«Ідэя паставіць Verbum Nobile належыць не мне аднаму, — кажа Аляксандр Чахоўскі, бізнэсовец і стваральнік музычнага дома «Класіка». — Мы працавалі ўтрох: апроч мяне, таксама дырыжор і яшчэ адзін чалавек, які купіў для нас партытуру ў Польшчы. Віктар Скарабагатаў таксама дапамог. Оперу Verbum Nobile мы абралі па некалькіх прычынах. Па-першае, у Беларусі яе ніколі не ставілі. Па-другое, мы не можам дазволіць сабе вялікую пастаноўку, таму не маглі зрабіць «Страшны двор» альбо «Гальку». Verbum Nobile камерная і, што вельмі важна, яна ў адным акце, а яшчэ гэта камічная опера, што ўвогуле бывае рэдка. Яе можна было паставіць сіламі тэатра «Галерэя», з якім мы актыўна супрацоўнічаем».

**«Наша Ніва»: Манюшка ў Беларусі амаль забыты, часам яго лічаць замежным кампазітарам…**

**Аляксандр Чахоўскі:** А апошнія дзвесце гадоў не было іншага кампазітара, які б стварыў такую колькасць настолькі выбітных твораў. Ёсць Міхал Клеафас Агінскі, ён быў дыпламатам у першую чаргу, напісаў няшмат. А Манюшка ад пачатку быў кампазітарам. У нас ёсць поп-культура, ёсць рок- і рэп-культура, а вось акадэмічнай музыкі ў нас як быццам і няма. Апроч «Сівой легенды», у Оперным беларускіх твораў не ідзе...

Адна з нашых задач — зацягнуць маладых у беларускую музыку. Бывае такое: прыедзе наш вакаліст на праслухоўванне ў Еўропу. У яго пытаюцца: «Што вы можаце праспяваць?» Ён адказвае: «Я магу Расіні праспяваць». Яму кажуць: «Расіні — гэта добра, але Расіні ў Італіі добра выконваюць. Можа, вы нам што-небудзь сваё пакажаце?» І вакаліст у разгубленасці. У нас беларускую акадэмічную музыку не вывучаюць асабліва. Шкада, што не захавалася твораў Манюшкі на лібрэта Дуніна-Марцінкевіча. А там, дзе лібрэта на польскай мове, мы можам перакласці.

**«НН»: Ставіць спектаклі па-беларуску — гэта для вас прынцыпова?**

**АЧ:** Так. Мы хочам паставіць камерную оперу Гайдна «Аптэкар», і будзем рабіць яе на беларускай мове. Іншыя праекты таксама будуць па-беларуску, апроч некаторых замежных твораў, якія маюць класічныя расейскія пераклады. Але там, дзе перакладаў няма, будзе выключна беларуская мова.

**«НН»: Адкуль у Вас цікавасць да акадэмічнай музыкі? Ці гэта ваш адзіны занятак?**

**АЧ:** Не, яшчэ я займаюся бізнэсам. У мяне ёсць IT-праекты, але яны такія, што працуюць амаль без мяне. Я выкладаю ў Вільні ў ЕГУ, гэта таксама займае пэўны час. Але калі мы будзем казаць пра колькасць працоўных гадзін у тыдзень, то 99% часу займаюць музычныя праекты.

У свой час я скончыў музычную школу па класе віяланчэлі, цікавіўся музыкай. Мае бацькі былі прыхільнікамі джаза, але акадэмічную таксама любілі. Пасля я заняўся бізнэсам і музыку адклаў убок.

**«НН»: І як «вярнуліся» да яе?**

**АЧ:** Аднойчы ў Празе я трапіў на канцэрт класічнай музыкі ў базіліку Святога Георгія, і атмасфера, якая там склалася, вельмі ўразіла. Па вяртанні ў Мінск я забраў дадому інструмент, да якога не дакранаўся трынаццаць гадоў, і пачаў займацца. На адным з канцэртаў пазнаёміўся з Віктарам Скарабагатавым, што таксама паўплывала на мяне. У нейкі момант я перастаў быць наёмным дырэктарам у адной кампаніі і пачаў шукаць, да чаго ляжыць душа. Так і адбылося маё «вяртанне».

**«НН»: Дзіўна чуць спалучэнне словаў «класічная музыка» і «прадзюсар»…**

**АЧ:** Я называю сябе імпрэсарыа, але калі мы кажам пра тэатральны прадукт, то я хутчэй прадзюсар. Я заснаваў музычны дом «Класіка»: з аднаго боку гэта суполка нашых прыхільнікаў, з іншага — усе творчыя і музычныя людзі, якім цікава працаваць з намі. Часам мы працуем як івэнт-агенцтва. Напрыклад, робім кавалак спектакля ці канцэрта для карпаратыву.

**«НН»: І карыстаюцца такія карпаратывы попытам?**

**АЧ:** Папраўдзе, мы не надта рэкламуем усё гэта. Ёсць кола людзей, які ведаюць, што можна замовіць такі карпаратыў, і карыстаюцца нашымі паслугамі. Тым больш праца з іншымі праектамі займае шмат часу, я не магу разарвацца.

**«НН»: Так, Verbum Nobile далёка не першы ваш праект…**

**АЧ:** Праектаў было шмат. Напрыклад, летась у Нясвіжы праходзіў цыкл канцэртаў «Музычныя скарбы Еўропы» — былі канцэрты для турыстаў па выходных. Выконваліся творы, якія гучалі ў гэтым замку, а таксама створаныя там: Мацей Радзівіл, Агінскі... Цяпер у выходныя нашы музыкі выступаюць у замку, у капліцы ёсць фісгармонія, там выконваюць духоўную музыку: Баха, Шуберта, Моцарта. А ў вялікай камiннай зале мы інсцэніруем «хатняе музыкаванне», выконваецца музыка барока. Былі ў нас праекты ў Мінскай ратушы, былі камерныя канцэрты, неяк мы стварылі міні-оперу паводле розных твораў Моцарта.

**«НН»: Над чым працуеце цяпер?**

**АЧ:** 30 чэрвеня ў Нясвіжы мы ставім музычны спектакль «Вандроўка Радзівіла Сіроткі ў Італію». ГМузычную частку выконваюць салісты ансамбля «Кантабіле», а акторскую — вядомы актор і рэжысёр Юры Жыгамонт. Гэта будзе спалучэнне канцэрта, спектакля, лекцыі і экскурсіі.

**«НН»: Ці цяжка рабіць камерцыйнай акадэмічную музыку?**

**АЧ:** Калі ў нас дзейнічае дзесяць чалавек, усё можна зрабіць на ўзроўні — гэтыя спектаклі нават могуць самаакупляцца. І людзі нам дапамагаюць — даюць грошы на рэквізіт. А цяжка ў прынцыпе ўсім, гэта ж не прычына, каб нічога не рабіць.

**Юрась Ускоў**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Аляксандр Чахоўскі**

Нар. у 1981 у Мінску. Скончыў музычную школу па класе віяланчэлі. Скончыў факультэт сацыяльных навук, па спецыяльнасці «Інфармацыя і камунікацыя». У часы студэнцтва паўгода жыў і працаваў ў ЗША. У 2012 атрымаў ступень MBA ў Еўрапейскім гуманітарным універсітэце. Жанаты, мае дваіх дзяцей. Музычнымі праектамі займаецца з лютага 2012.



**Станіслаў Манюшка (1819–1872)**

польскі і беларускі кампазітар, дырыжор. Стваральнік нацыянальнай класічнай оперы. Аўтар опер, вадэвіляў і больш як 300 песень. Паходзіў з беларускага шляхецкага роду. Вучыўся ў Мінску, быў арганістам у Вільні, дырыжорам варшаўскай Оперы. Першыя музычныя камедыі пачаў пісаць яшчэ ў Беларусі. Творы «Канторскія службоўцы», «Латарэя», «Рэкруцкі набор», «Ідылія» (два апошнія — лібрэта Дуніна-Марцінкевіча) ставіліся ў Мінску і Гродне. Прэм’ера яго камічнай оперы «Ідылія» ў Мінску (1852), дзякуючы выкарыстанню беларускай мовы, мела вялікае значэнне ў гісторыі беларускай музычнай культуры. Са сталых ягоных операў найбольш папулярныя «Галька» і «Страшны двор».



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Verbum Nobile («Слова гонару»)**

ставіцца ў Беларусі ўпершыню. Гэты твор Манюшкі лічыцца першай музычнай камедыяй на нашых землях і доўжыцца ля гадзіны. Прэм’ера оперы адбылася ў Варшаве ў 1861. Яе ставілі ў Польшчы, Расіі, некаторых еўрапейскіх краінах, аднак да беларускага гледача яна ўпершыню трапіла сёлета. Сюжэт — гісторыя кахання шляхціца Станіслава і дачкі памешчыка Лагоды Зосі, якую бацька хоча аддаць за другога. Пастаноўка здзейсненая ў «некласічнай манеры» — аркестр камерны, дэкарацый няма. Аднак у такім выглядзе опера робіцца прасцейшай для разумення.

**Наступны паказ оперы Verbum Nobile пройдзе 20 чэрвеня ў гродзенскім Тэатры лялек.**

# Юрась Бушлякоў пайшоў у 40 гадоў

Памёр адзін з найлепшых знаўцаў беларускай мовы.



Юрася Бушлякова не стала 4 чэрвеня. 29 мая яму споўнілася толькі 40 гадоў. Але хвараў і ведаў, што выратавання не будзе: рак скуры. Таму паміраць вярнуўся ў родны Мінск з Прагі, дзе працаваў на беларускай службе радыё «Свабода».

Слухачы ведаюць яго голас яшчэ і па працы на радыё «101,2». Але не ўсе ў курсе, што выдатны знаўца беларускай мовы вырашыў стаць філолагам толькі ў апошні момант.

«У яго быў курс, каб паступаць у фізкультурны інстытут. І тое, што ён трапіў на філфак, пэўная выпадковасць. Ягоны бацька быў майстрам спорту па вольнай барацьбе. А Юрась у канцы 1980-х цягаў жалеза — быў абсалютна паглынуты гэтым. Як нядаўна прызналася яго мама, для яе таксама быў неспадзяванкай выбар, які сын зрабіў у апошняй чвэрці свайго школьнага навучання», — расказвае сябра Бушлякова Валер Булгакаў. Яны разам вучыліся на філфаку БДУ.

«Мы пазнаёміліся 5 верасня 1990, калі нас сабралі, загрузілі ў аўтобусы і вывезлі ў сяло Сінія Горы Смалявіцкага раёна. Мы там адбывалі так званую сельскагаспадарчую практыку: дапамагалі радзіме збіраць ураджай. Юрась, відаць, быў адзіным сярод ста студэнтаў, хто гаварыў па-беларуску. І вызначаўся ўвогуле сваёй бескампраміснай пазіцыяй».

У школе Бушлякоў быў вызвалены ад вывучэння беларускай мовы. Але гэта не зашкодзіла ў старэйшых класах свядома зрабіць выбар. «Слава беларускамоўнага дзеяча замацавалася за ім яшчэ ў школе, — кажа Булгакаў, які знаёмы з Юрасёвымі аднакласнікамі. — Юрась паходзіць з сям'і, дзе беларускія традыцыі не чужыя. Яго дзед, Пётр Старавыбарны — беларускі пісьменнік, супрацоўнік «Настаўніцкай газеты». Да дзеда прыходзілі сябры, якія паміж сабой гаварылі па-беларуску. Гэта была мінская савецкая інтэлігенцыя, якая захоўвала пэўную моўную ідэнтычнасць».

А калі Юрась перайшоў на беларускую, то гэта было адразу і назаўсёды. У краме, у транспарце, на вуліцы...

«Ён не баяўся сутыкнення з жорсткай рэальнасцю. У першай палове 1990-х мы былі радыкальна настроеныя. І здараліся трагікамічныя, кур'ёзныя сітуацыі, калі мы наязджалі на вядомых персанажаў беларускай культуры з патрабаваннем, каб яны ўжывалі ў сваім маўленні беларускую мову. Помню, як у 1993 паехалі на экскурсію ў Полацк. І ў холе гасцініцы «Дзвіна» Юрась пачуў, што спявак Анатоль Ярмоленка па тэлефоне гаворыць па-руску. І Юрасёва рэакцыя была даволі агрэсіўнай: ён пачаў выхоўваць сп. Ярмоленку, рабіць яму недвухсэнсоўныя заўвагі. Часамі даводзіў да здранцвення прадавачак у крамах, просячы «букатку» — булачку. Тады нам здавалася, што беларуская мова жыла і жыве ў нетрах народа, а расійскамоўнасць — гэта нейкі налёт, за якім, калі яго сашкрэбці, адкрыецца ў кожным чалавеку сапраўдная беларускасць».

У 1995 Юрась атрымаў дыплом ВНУ. Гэта быў першы і апошні ў гісторыі БДУ дыплом з адзнакай, на якім была Пагоня. Да таго былі яшчэ савецкія бланкі, а пасля — з новым гербам.

Бушлякоў працаваў у розных накірунках. Яшчэ ў 1993 дэбютаваў на старонках «Нашай Нівы» з перакладам на беларускую твораў Эдгара Алана По. Быў аўтарам некалькіх скандальных публікацый у часопісе Arche. Яму пад псеўданімам Юдаль Марголін належыць слоўнік сэксуальных паняццяў «Жанчына й сэкс: што, дзе й навошта?».

Ён з'яўляецца ініцыятарам і рэдактарам перакладу на беларускую «Гістарычнай фаналогіі беларускай мовы» Поля Векслера. Некалькі гадоў працаваў над кнігай (у суаўтарстве) «Беларускі клясычны правапіс. Збор правілаў. Сучасная нармалізацыя».

Пахавалі Юрася Бушлякова на Паўночных могілках Мінска.

**Сяргей Макарэвіч**

## Спачуванні праз nn.by

Жахлівая навіна! Юрась выкладаў культуру мовы ў Беларускім ліцэі, запомніўся як зычлівы і цярплівы выкладчык. Я ж меркаваў, што ён будзе ў наступных пакаленнях працягваць тое, што мы падхапілі некалі; горача бараніў яго дысертацыю перад акадэмікам Падлужным. І вось, абодвух няма... Напэўна, Бог сапраўды так любіць беларусаў, што так хутка забірае да сябе найлепшых. Вечная памяць! **Лявон Баршчэўскі**

Вечны супакой няхай дае табе Госпад, Юрась. Балюча успрымаць смерць тых, каго ведаеш. **Юры Барок**

Якая страта... Сэрца, розуму, незабыўнага голасу… **Вольга Б.**

Вечная памяць! **Ілля Сін**

Вечная памяць! **Алесь Пашкевіч, гісторык**

Спачуванні родным і блізкім! Непапраўныя страты нясём апошнім часам. **Алесь Аркуш**

Што ж за планы такія ў Бога, калі ён забірае найлепшых так рана і пакутліва. Няўжо ж беларуская нацыя не мае перад Ім даравання, што забірае так рана тых, хто гэтую нацыю стварае. Вечная памяць Юрасю! Рай светлы яго душы. **Ніна Шыдлоўская**

Юрась быў не руды, а залаты. Не перадаць словамі, якая страта! Юрась, толькі добрыя думкі пра цябе, вялікі прыклад, вялікая падзяка. **Інэса Кур'ян**

Светламу Чалавеку светлая памяць! **Аўген Сідорык**

Гэты незвычайны чалавек, выкладчык з вялікай літары. Мы бачылі яго толькі адзін семестр. Але запомнілі яго на ўсё жыццё. Ён салідна спазняўся амаль на кожную лекцыю, але мы — у гэта цяжка паверыць — з імпэтам чакалі яго заняткаў. Ён паказаў нам сапраўдную беларускую мову: сакавітую, сучасную, прывабную. І мы закахаліся ў яе. Я думаю, феномен гэтага чалавека ў тым, што ён быў жывым. Ён і цяпер жывы... Да сустрэчы, Юрась! **Прыстаўка Ягор**

Юрасічак, родны… Не магу паверыць, не магу прыняць і развітацца. Колькі ведала пра хваробу, але ніяк не прымаецца такое. Божанька, прымі яго светлую, самую добрую ў беларускім свеце душу. Беражы спадарыню Элеанору, маму Юрася. **Валярына Кустава**

Да пабачэння. Спадзяюся, ты цяпер ідзеш праз належныя краявіды. **Святлана Курс**

Цудоўным быў Чалавекам. Супакой яго душы. **Генадзь Вінярскі**

Не верыцца. Гэта чалавек, якому можна было даверыць усё. Гэта чалавек, без якога, без перабольшання, жыццё шмат для каго будзе падзеленае на з ім і цяпер без. Памяць, любоў і падзяка. **Вольга Караткевіч**

Не хочацца верыць, што гэтак заўчасна адыходзяць найлепшыя! **Уладзімір Сіўчыкаў**

Смутак і скруха… Яшчэ раз дзякуй Вам, Юрась, за дапамогу і за ўсё тое, што Вы зрабілі! Вечная светлая Вам памяць! **Дзяніс Кароль**

Меў гонар ведаць асабіста. Найдабрэйшы і вельмі глыбокі чалавек. Застанецца ў памяці назаўсёды. **Янка Коўзель**

# Адданы нацыянальнай ідэі

Раніцай 7 чэрвеня ў Мінску на 86-м годзе жыцця памёр народны мастак Беларусі **Уладзімір Стальмашонак**.



БЕЛТА

«Ён меў свой непаўторны стыль, — расказвае мастацтвазнаўца Сяргей Харэўскі. — Стальмашонак звяртаў вялікую ўвагу на нацыянальнае. Ягоны знакаміты партрэт Якуба Коласа, напісаны як абраз, я лічу адным з шэдэўраў беларускага мастацтва XX ст.».

Стальмашонак нарадзіўся ў Мінску. Скончыў Ленінградскую акадэмію мастацтва, гэта максімальна магчымая на той час мастацкая адукацыя, няшмат хто з беларусаў пасля сканчэння Акадэміі вярнуўся. Ад 1957 года выкладаў у Тэатральна-мастацкай акадэміі. Можна сказаць, што пакінуў пасля сябе самую сапраўдную школу — пакаленне мастакоў 60-х і 70-х шмат чаму ў яго навучылася.

«Канечне, час быў такі, што Стальмашонку даводзілася пісаць партрэты Леніна, але ён ніколі не выкрэсліваў сваю беларускасць, — працягвае Сяргей Харэўскі. — Калі некаторыя мастакі прыйшлі да беларушчыны толькі ў часы перабудовы, дык Стальмашонак ад самага пачатку быў адданы нацыянальнай ідэі. Пік ягонай творчасці прыйшоўся на 1970-я».

Ён паспрабаваў сябе ў шматлікіх жанрах, быў выдатным вітражыстам. Ягоныя вітражы можна ўбачыць у Музеі Янкі Купалы, у Доме літаратараў. Не так даўно быў знішчаны гіганцкі вітраж у будынку Нацыянальнай школы прыгажосці. Цікава было б даведацца і пра лёс вітража рэстарана «Патсдам».

Афармленне станцыі метро «Маскоўская» — гэта таксама ягоная праца.

Традыцыі мінскай нацыянальнай інтэлігенцыі Стальмашонак захаваў да канца жыцця.

**Юрась Ускоў**



**Ягоны партрэт Якуба Коласа напісаны як абраз »**

# «Канечне, я баюся пакутлівай смерці ад раку»

Шатландскаму пісьменніку **Іэну Бэнксу** было 59 гадоў.



«Лепш заставацца жывым. Але я не думаю, што баюся памерці. Наогул я атэіст і не веру, што мяне чакае вечнае жыццё пасля смерці. Вядома, было б цікава выявіць, што яно там ёсць. Гэта было б вельмі нечакана: «Чорт, я памыляўся!» Канечне, як і ўсе мы, я баюся пакутлівай смерці, напрыклад, ад раку ці чаго-небудзь такога», — казаў Іэн Бэнкс у адным з інтэрв'ю.

Злыя жарты лёсу, але памерці пісьменніку давялося якраз ад раку. У красавіку ў Бэнкса выявілі неаперабельны рак жаўцяка. Ён разумеў, што жыць засталося некалькі месяцаў, але не кідаўся ў істэрыкі. Паведамленне было агучана без лішняй шуміхі.

Бэнкс бліскуча дэбютаваў у 1984 раманам выхавання «Асіная фабрыка», які, відаць, і застанецца найлепшым ягоным творам. 16-гадовы Фрэнк жыве з бацькам адасоблена ад свету ў невялікім доме на ўзбярэжжы. Фрэнк практыкуе рэлігійныя рытуалы з ахвярапрынашэннямі (насякомыя, птушкі, дробныя жывёлы). Таксама ён стрымана і з разлікам забівае трох чалавек.

Раман Бэнкса быў успрыняты неадназначна. Яго шмат крытыкавалі за жорсткасць і агаленасць. Іншыя ж уключалі «Асіную фабрыку» ў найлепшыя творы XX стагоддзя. Гэтая кніга пра злоўжыванне ўладай, якая здольная нарадзіць дэманаў, што выходзяць з-пад кантролю, пра падман і самападман (канцоўка твора ашаламіла многіх). І ўсё гэта прыпраўлена чорным гумарам.

Пасля было шмат кніг, ён чаргаваў класічныя раманы з навуковай фантастыкай. Быў перакананым сацыялістам, шмат крытыкаваў сёння шнюю Вялікабрытанію.

Напрыклад, у 2003 парваў свой пашпарт ды даслаў яго тагачаснаму прэм'еру Тоні Блэру, гэтак ён выказваўся супраць вайны ў Іраку. Іранізаваў з сябе, што гульгай, бо працуе ў год толькі тры месяцы. Ягонай жарсцю былі гоначныя аўтамабілі ды камп'ютарныя гульні. Затое ў адзенні стаў пераборлівым толькі ў канцы жыцця.

На беларускую мову раманы Бэнкса не перакладаліся.

**Зміцер Панкавец**

# Жамойць і Літва

Часам Жамойцю называюць усю сучасную Літву. Што ж такое Жамойць і дзе яна была? Піша **Алег Дзярновіч**.




Жамойць (Samogitia) на галандскай мапе ВКЛ XVII ст.

У палкіх да бессэнсоўнасці дыскусіях на тэму «беларускім ці літоўскім было Вялікае Княства Літоўскае» палемісты часта выкарыстоўваюць фактар «Жамойці». Маўляў, гістарычная Літва была часткай беларускай тэрыторыі, а балтамоўнае насельніцтва ВКЛ звалася жамойтамі і толькі ў XIX ст., лідары летувіскага нацыянальнага руху, нашчадкі жамойтаў, здолелі атаясаміць сваю гісторыю з Літвой і рэпрэзэнтавалі гэтае ўяўленне свету. Што ж такое Жамойць насамрэч?

## Ермаловіч і Урбан

Шырокай публіцы «тэму Жамойці» адкрыў Мікола Ермаловіч (1921—2000). Гэты таленавіты даследчык-самавук у сваёй кнізе «Па слядах аднаго міфа» лакалізаваў «летапісную Літву» на тэрыторыі Верхняга Панямоння, паміж Полацкай, Турава-Пінскай і Наваградскай землямі і разам з імі вызначаў «Літву» як адну з гістарычных земляў Беларусі. У XVI ст., паводле Ермаловіча, назва «Літва» пашырылася на ўсю тэрыторыю Беларусі і ўсход Літоўскай Рэспублікі. А большая частка тэрыторыі сучаснай Літвы называлася Жамойць. Сёння версія Міколы Ермаловіча не прымаецца абсалютнай большасцю гісторыкаў, але яго значнасць у абуджэнні цікавасці беларускага грамадства да гісторыі Вялікага Княства цяжка пераацаніць.

Блізкія да Ермаловічавых погляды на месца «Літвы» і «Жамойці» меў беларускі эміграцкі гісторык Паўла Урбан (1924—2011). Урбан спрабаваў размежаваць «літвінаў» і «жмудзінаў», паказаць, што Жамойць была адасобленая ад Літвы моўна і этнічна.

У сваёй працы «Да пытання этнічнай прыналежнасці старажытных ліцвіноў» Урбан на аснове ўласнай інтэрпрэтацыі імёнаў князёў імкнуўся абгрунтаваць ідэю пра славянскасць «старажытнай Літвы», а Жамойць у складзе ВКЛ лічыў «іншародным целам». Погляды Урбана былі больш радыкальныя, чым у Ермаловіча, які прызнаваў балцкае паходжанне старажытнага племя «літва».

## Продкі жамойтаў таксама продкі латышоў

Жамойць сапраўды мела адрозную ад Літвы старажытную этнічную гісторыю. Не заглыбляючыся ў спецыфіку археалагічных культур, адзначым толькі, што продкі сённяшніх жамойтаў у сярэдзіне I тыс. н. э. не ўваходзілі ў арэал так званай Культуры ўсходнелітоўскіх курганоў, якую даследчыкі атаясамляюць з пачаткамі Літвы. Жамойты ўтвараліся на базе Культуры грунтовых могільнікаў, пахавальны інвентар якіх уключаў конскія галовы і капыты. Гісторыя жамойтаў пачыналася ўсходней сённяшняй тэрыторыі этнаграфічнай Жамойці — у басейне ракі Святой (Швянтойі). Верагодна, жамойты пачалі ўтварацца на базе земгалаў — усходнебалцкага племя, большая частка якога ўвайшла ў склад латышскага народа.

Прасоўваючыся далей на захад, раннія жамойты змяшаліся з куршамі — яшчэ адным продкамі латышоў. Спачатку гэта было заходнебалцкае племя, роднаснае прусам і яцвягам, якое пазней збілізілася з усходнімі балтамі. Куршы фігуруюць у ісландскіх сагах XII—XIII стст., яны пастаянна сутыкаліся з вікінгамі.

Здавалася б, на гэтым можна было б і спыніцца, пазначыўшы толькі гэтыя этнічныя адметнасці жамойтаў. Але сярэднявечныя пісьмовыя крыніцы даюць нам куды больш падстаў для развагаў.

Па-літоўску Жамойць (Žemaitija) азначае «ніжняя». Традыцыйна маецца на ўвазе знаходжанне гэтага краю ў ніжняй плыні Нёмана. У гэтым Жамойць проціпаўстаўляецца Аўкштоце — «высокай зямлі» (літ. Aukštaitija ад aukštas — высокі). Але пры чым тут тады Нёман? Сёння лінгвісты і археолагі Літоўскай Рэспублікі вызначаюць тэрыторыю ранняй Аўкштоты на пагорках паміж Вільняй і Ашмянамі — гэта і ёсць ядро Літвы. Нёман, як мы ведаем, цячэ крыху ўбаку — паўднёвей і заходней. Таму цяпер сэнс назвы Жамойць інтэрпрэтуюць як нізіны басейна ракі Нявяжы. Фактычна, назапашванне моўных і археалагічных фактаў надалей толькі заблытвае праблемы суаднясенняў гэтых паняццяў — Літвы, Жамойці, Аўкштоты... Але так будзе, калі іх успрымаць толькі як этнічныя паняцці.

## Упартая Жамойць

Першую прыгадку Жамойці, а дакладней яе князёў, мы маем пад 1219 г. — Галіцка-валынскі летапіс паведамляе, што ў «лета 6723» літоўскія князі, у тым ліку жамойцкія Ердзівіл і Выкінт, заключылі мір з галіцка-валынскімі князямі. Надалей фактар Жамойці прысутнічаў у гісторыі стварэння дзяржавы Міндоўга — будучага Вялікага Княства.

Умацоўваючы адзінаўладдзе, каля 1248 Міндоўг захапіў землі сваіх пляменнікаў Эдзівіда і Таўцівіла. У адказ яны ўзнялі мяцеж, да якога далучыліся жамойцкі князь Выкінт, Даніла Галіцкі, Лівонскі ордэн і Рыжскае арцыбіскупства. Каб разбурыць гэтую небяспечную кааліцыю, Міндоўг напісаў у Рым і каля 1251 прыняў каталіцтва, а ў 1253 каранаваўся (верагоднай за ўсё ў Навагарадку) каралеўскай каронай, якую даслаў Папа Інакенцій IV. Гэта быў удалы ход Міндоўга, але ён патрабаваў выдаткаў — частка Жамойці была аддадзена немцам.

У 1261 Міндоўг адмовіўся ад каталіцтва і ўсталяваў у Літве сваю неабмежаваную ўладу. Гэта выклікала змову супраць яго князёў жамойцкага Траняты, полацкага Таўцівіла, гальшанскага Даўмонта. Уладар Літвы быў забіты. Фактычна, Жамойць хоць і не стала часткай дзяржавы Міндоўга, але ўвесь час фігуравала ў палітыцы Літвы.

Усё наступнае стагоддзе Жамойці прайшло пад знакам крыжацкіх рэйдаў. Нямецкі храніст Пётр з Дусбурга пад 1283 адзначыў у сваёй «Хроніцы Прускай зямлі»: «...браты дома Тэўтонскага пачалі вайну з тым народам, магутным і ўпартым і загартаваным у бітвах, які быў найбліжэйшы да зямлі Прускай і жыў за ракой Мемель (Нёман) у зямлі Літоўскай». Нямецкі храніст добра адрозніваў Жамойць ад іншай зямлі — Аўкштоты і ведаў пра супярэчнасці паміж Літвой і Жамойцю, нобілі якой «уздымалі просты люд супраць караля літоўцаў».

Жамойць ляжала паміж дзвюма дзяржавамі, якія немцы стварылі ў Паўднёвай Балтыцы — Прусіяй і Лівоніяй. Немцы імкнуліся тэрытарыяльна звязаць гэтыя мілітарныя ўтварэнні, падпарадкаваўшы Жамойць. Рэйды крыжакоў у Беларусь на працягу XIV ст. — толькі бляклы адбітак сістэматычнага наступу, які даваўлося адчуць жамойтам. Памежныя воласці ў другой палове XIV ст. практычна абязлюднелі.

Уладары Літвы, калі шукалі падтрымкі Ордэна, выкарыстоўвалі фактар Жамойці — папросту гандлявалі ёй. Толькі пасля Грунвальда Ордэн зрокся Жамойці. Тады ж да Жамойці былі далучаныя спустошаныя землі куршаў — Мегава (з Палангай) і Цэкліс. Пачалося засяленне спусцелых памежных валасцей і тэрыторыя Жамоці павялічылася амаль удвая, а жамойты асімілявалі паўднёвых куршаў і земгалаў.

## Часы староства і біскупства

Ужо ў складзе ВКЛ у 1413 пачаўся хрост жамойтаў. Гэта быў апошні хрысціянізаваны народ Еўропы. А ў 1417 была створана рыма-каталіцкая дыяцэзія (Жамойцкае біскупства) з цэнтрам у Медніках (жамойцкіх).

У межах ВКЛ Жамойць атрымала статус староства. Гэта было найбольшае староства ў дзяржаве. І калі звычайна ў ВКЛ старагствы ў адміністратыўным сэнсе знаходзілася на адным ўзроўні з валасцямі ды ўваходзілі ў склад павету, то Жамойцкае староства паводле статусу адпавядала ваяводству. Жамойць мела шырокую аўтаномію і карысталася шырокім самакіраваннем.

У 1440, пасля абрання вялікім князем Казіміра Ягелона, у Жамойці пачалося паўстанне мясцовага баярства, што было на баку іншага прэтэндэнта на вялікакняскі стол — Міхаіла (Міхайлушкі) Жыгімонтавіча. Каб улагодзіць баярства, Жамойці далі прывілей (1441), паводле якога ёй гарантаваўся асобны статус, у тым ліку беспрэцэдэнтнае права мясцоваму баярству самім абіраць старасту, які сваім статусам быў роўны ваяводу, а таксама мясцовых службоўцаў — цівуноў. Яшчэ адна назва, якая замацавалася за рэгіёнам, — Княства Жамойцкае.




**Межы старажытнай Літвы паводле Міколы Ермаловіча.**

## Мова і межы: трансфармацыя сэнсаў

Але на працягу XIV—XIX стст. адбывалася трансфармацыя сэнсу назвы «Жамойць» і звязаных з ім іншых азначэнняў. Рэч у тым, што «гістарычная» Жамойць — тэрыторыя Жамойцкага княства (зямлі) ці «староства» — была большая за ўласна этнаграфічную Жамойць, уключаючы таксама былую яцвяжскую Судовію і частку Заходняй Аўкштоты. Але існавала яшчэ адно важнае адміністратыўна-тэрытарыяльнае ўтварэнне, якое мела ў сваёй назве Жамойць — гэта Жамойцкае біскупства. Апроч уласна Жамойцкай зямлі, яно ўключала ў свой склад таксама Упіцкі павет Троцкага ваяводства.

Паводле літоўскага мовазнаўцы Зігмаса Зінкявічуса, яшчэ да з'яўлення літоўскага пісьменства ў ВКЛ былі распаўсюджаны два інтэрдыялекты, гэта значыць дзве гаворкі, што выкарыстоўвалі ў сваіх зносінах носьбіты розных дыялектаў. Адзін быў створаны на базе літоўскіх гаворак вакол сталічнай Вільні і паўстаў з мясцовага ўсходнеаўкштайцкага дыялекту. Другі належаў Жамойцкаму княству Сярэднелітоўскай раўніны. Ён зваўся «жамойцкай мовай» і моцна адрозніваўся ад віленскага інтэрдыялекту, які называўся «літоўскай мовай» (не блытаць з сучаснай літаратурнай літоўскай мовай!). На аснове гэтых двух асноўных інтэрдыялектаў пазней у ВКЛ сфармаваліся два варыянты літоўскай пісьмовай мовы: усходні або віленскі (называўся «літоўскай мовай» і часцей выкарыстоўваўся ў балтамоўным рэгіёне Віленскага біскупства) і «сярэдні» дыялект Кейданскага краю (зваўся «жамойцкай мовай» ды выкарыстоўваўся ў Жамойцкім біскупстве). У той жа час у Прускім герцагстве літоўцы на чале з першадрукаром Мажвідасам стварылі сваю пісьмовую мову, у аснове якой ляжаў мясцовы заходнежамойцкі дыялект.

Такім чынам, «жамойцкай мовай» у часы ВКЛ называлі заходні варыянт аўкштайцкай мовы, які не мае адносін да сучасных жамойцкіх гаворак. На гэтай «жамойцкай мове» пісалі многія важныя для літоўскай культуры дзеячы, напрыклад, Мікалоюс Даўкша (1527—1613). З. Зінкявічус мяркуе, што пісьмовы ўсходнеаўкштайцкі дыялект знік на пачатку XVIII ст. Сфера пісьмовага ўжывання інтэрдыялекту была абмежаванай, фактычна ім пісаліся асобныя нататкі рэлігійнага зместу. Але вусная віленская гаворка ўсходнеаўкштайцкага дыялекту часткова захавалася, у тым ліку і на тэрыторыі сучаснай Беларусі (Гервяцкі край). Падобна, што гэта і ёсць моўны рэлікт той старажытнай («летапіснай») Літвы.

Сучасная ж літоўская літаратурная мова была створана выхадцамі з Сувалкскай губерні (сучасны Вілкавішскі раён) на мяжы XIX—XX стст. і яна з'яўляецца наўпростым спадкаемцам «жамойцкай мовы» Жамойцкага біскупства.

## Жамойць гістарычная і этнічная

Такім чынам, з часоў Позняга Сярэднявечча мы маем дзве Жамойці. Найперш, гэта гістарычны рэгіён, які супрацьстаяў нямецкай экспансіі, але і не жадаў падпарадкоўвацца цэнтралізатарскім тэндэнцыям у Літве XIII—XIV стст. Найдаўжэй гэты край заставаўся паганскім. Урэшце ён атрымаў беспрэцэндэнтную ступень аўтаноміі. Прыназоўнік «жамойцкі» ў XV—XVIII стст. належаў да адміністратыўных утварэнняў — свецкага і царкоўнага. Жамойцкай таксама пазначалі заходнеаўкштайкую мову, пашыраную ў Жамойцкім біскупстве. Толькі з канца XVIII ст. азначэнне «Жамойць» стала набываць этнічны змест, пазначаючы этнічна адметнае і моўна самабытнае насельніцтва, што насяляла заходнюю частку гістарычнай Жамойці. Бо спачатку этнічны змест знаходзіўся на маргінэзе разумення Жамойці. Атаясамленне гэтых двух паняццяў — Жамойці гістарычнай і Жамойці этнічнай — можа прывесці да блытаніны пры працы з гістарычнымі крыніцамі.

Жамойць XIII—XIV стст. — гэта паганскі край, у якім не было гарадоў. Аўтаномная ж Жамойць XV—XVI стст. была складовай часткай ВКЛ. А Жамойцкае біскупства ўключала ў сябе нават частку гістарычнай Літвы. Калі ж у XVII—XVIII стст. пісалі пра Жамойць, то найперш мелі на ўвазе супольнасць польскамоўнай шляхты.

Як не выпадае атаясамляць у Сярэднявеччы гістарычную Жамойць і Літву, так і памылковым будзе іх супрацьпастаўляць, сцвярджаць, што яны зусім не мелі агульнага лёсу.

Нацыятворчыя працэсы XIX ст. – зусім іншы сюжэт: апеляцыя да гісторыі там сапраўды была, але новыя народы будаваліся паводле моўных прыкмет. Як Літва мела некалькі аблічча (прынамсі — гістарычнае і этнічнае), так і Жамойцяў стала дзве.

## ІМПРЭЗЫ

### Сонцаварот

**21 чэрвеня а 17-й у Беларускім дзяржаўным музеі народнай архітэктуры і побыту** адбудзецца фальклорны фэст «Сонцаварот». Вас чакаюць майстар-класы па народных ramёствах, завіванне вяночкаў, выступленне фальклорных калектываў «Ветах», «Страла», «Рада», «Этнасуполка», школа традыцыйнага мастацтва «GUDA», майстар-класы па народных танцах і шмат іншага.

### Усмешка жалобнай каралевы

**13 чэрвеня а 19-й у кнігарні «логвінаЎ» (пр. Незалежнасці 37а)** адбудзецца прэзентацыя кнігі «Усмешка жалобнай каралевы, альбо Таямніца магнітнага замка», раман-фэнтазі паводле беларускай міфалогіі . Аўтар — пісьменнік-фантаст Серж Мінскевіч. У імпрэзе возьмуць удзел Аксана Спрынчан, Арцём Кавалеўскі, Ірына Клімковіч, Андрэй Хадановіч.

### Сціmпанк-трамвай

**16 чэрвеня а 18-й з трамвайнага кальца на вул. Кастрычніцкай (непадалёку ад метро «Першамайская»)** адправіцца сціmпанк-трамвай. Сціmпанк выяўляе варыянт развіцця чалавецтва па шляху паравых машын. Падчас вандроўкі адбудзецца сціmпанк-дэфіле і міні майстар-клас, у трамваі будуць граць музыканты, а таксама вас чакаюць незабыўныя прыгоды і расповеды ўнікальнага экскурсавода.

### Купальскае кола

**29 чэрвеня а 19-й у Re:Public (Прытыцкага, 62)** — 5-ы pagan-folk metal фестываль «Купальскае кола», прысвечаны старажытнаму народнаму святу Купалле, прымеркаванаму да дня летняга сонцастаяння, калі дасягаюць найвышэйшага росквіту жыватворчыя сілы зямлі.

### Вечары Вялікага тэатра ў замку Радзівілаў

**З 21 па 23 чэрвеня ў Нясвіжы** адбудзецца штогадовы творчы праект «Вечары Вялікага тэатра ў замку Радзівілаў».
**21 чэрвеня а 16-й у тэатральнай зале замка Радзівілаў** — канцэрт салістаў оперы «Летнім вечарам…»
**У 21.30 ва ўнутраным дворыку замка** — «Лебядзінае возера».
**22 чэрвеня а 16-й у касцёле Божага Цела** — канцэрт з твораў беларускіх кампазітараў XIX стагоддзя.
**У 21.30 ва ўнутраным дворыку замка** — «Сівая легенда».
**23 чэрвеня а 15-й у тэатральнай зале замка Радзівілаў** — «Рыта, альбо Пірацкі трохкутнік».
**А 20-й ва ўнутраным дворыку замка** — Гала-канцэрт зорак Вялікага тэатра.

### Рок за Бабровў

**15 чэрвеня на аэрадроме «Баравая» пад Мінскам а 14-й** пачнецца 8-ы штогадовы музычны фестываль «Рок за Баброў». Хэдлайнерамі фестывалю стануць фінскі гурт Sunrise Avenue, а таксама піцерскі рок-гурт Animal ДжаZ. Будуць і беларускія гурты — «Без білета» і НАКА. Уваход вольны.

### Мамант

**15—16 чэрвеня ў Мінску** пройдзе трынаццаты фестываль сучаснага мастацтва і авангарднай моды «Мамант». **15 чэрвеня а 14-й у Музычным тэатры** — конкурсны паказ авангарднай моды, **у 19.30** — конкурс фэйс-арта (першая частка). Праграму завершыць **а 20-й** Гала-паказ калекцыяў.
**У гэты ж дзень у клубе «Міленіум» (пр. Пераможцаў, 7) у 19.30** пачнецца конкурс бодзі-арта, **а 24-й** — другая частка конкурсу фэйс-арта.
**16 чэрвеня а 15-й перад будынкам Гістарычнага музея** — карнавал і канцэрт.

### Пікнік.by

**29 чэрвеня на хутары Шаблі пад Валожынам а 14-й** пачнецца фестываль пад адкрытым небам Пікнік.by. Сярод выступоўцаў — Akute, «Серебряная Свадьба», «Разбітае Сэрца Пацана», Паліна Рэспубліка ды іншыя. У праграме бадмінтон, фрысбі, настольныя гульні, бодзі-арт ды іншыя забаўкі.

# Першы Сырны Фестываль пад Мінскам



**15 чэрвеня з 11.00 да 20.10**
**на тэрыторыі Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту.**
Падчас фестывалю наведнікі змогуць не толькі паўдзельнічаць у дэгустацыі сыроў, але і паспрабаваць свае сілы ў заваяванні Сырнага Алімпійскага медаля…

**Сайт фестывалю:**
**fest.imagebelarus.by**




## КАНЦЭРТЫ

### Альтанка

**15 чэрвеня а 14-й у «Крылах» (Далгабродская, 17)** — канцэрт этнагурту «Альтанка».

### Джазавыя суботы

**15 і 29 чэрвеня а 19-й на плошчы Свабоды** пройдзе музычны праект «Джазавыя суботы ля Ратушы».
**15 чэрвеня** вас чакаюць гурты Eddie Henderson (ЗША), Liptnitsky Show Orchestra (Беларусь), Three Fall (Германія).
**29 чэрвеня** — Jaak Lutsoja group (Эстонія), дуэт Kekko Fornarelli і Roberto Cherillo (Італія) і трыа Канстанціна Гарачага (Беларусь).

### Сонцам асвячуся

**15 чэрвеня а 19-й у канцэртнай зале «Мінск» (Малая сцэна)** — Іван Кірчук запрашае на творчую сустрэчу «Сонцам асвячуся…».

### Танцы з Бубнам

**14 чэрвеня а 19-й у «Графіці» (зав.Калініна, 16)** — канцэрт «Танцы з Бубнам». Прэзентуецца міні-альбом «В-52». Разам з Уладам Бубнам выступяць выбітныя беларускія паэты Вольга Гапеева, Алесь Плотка (Байсан) і Ярыла Пшанічны.

## ВЫСТАВЫ

### Партрэты ўладароў і магнатаў Вялікага Княства Літоўскага

**Да 26 жніўня ў Мастацкім музеі** працуе выстава «Партрэты ўладароў і магнатаў Вялікага Княства Літоўскага». Многія з партрэтаў Сапегаў, Тышкевічаў, Сангушак упершыню стануць вядомыя беларускім даследнікам. Творы прадставілі музеі Львова і Вальні.

### Беларусь сінявокая

**Да 15 чэрвеня ў Мастацкім музеі** працуе фотавыстава Дзяніса Раманюка «Беларусь сінявокая», на якой можна ўбачыць, што хаваецца за гучнымі метафарамі «Сінявокая Беларусь» і «Край блакітных азёраў».

### Стасіс Красаўскас

**Да 25 ліпеня ў Мастацкім музеі** працуе выстава графічных твораў народнага мастака Літвы Стасіса Красаўскаса. Красаўскас працаваў у самых розных тэхніках (ксілаграфія, літаграфія, лінагравюра, афорт) і ствараў станкавыя гравюры, а таксама шматлікія ілюстрацыі да літаратурных твораў.

### Basis: пачатак

**14 чэрвеня а 17-й у мастацкай галерэі Цэнтра народнай творчасці (Гікалы, 4, памяшканне бібліятэкі імя А.С. Пушкіна)** адкрываецца выстава твораў Паўлы Кароткай «Basis: Пачатак». У экспазіцыі будуць прадстаўлены жывапісныя палотны, графіка, творы дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва. Як піша сама мастачка, асноўны накірунак яе творчасці — свет фантазій, перажыванняў і пачуццяў. На адкрыцці выставы будзе граць гурт Shaman Jungle, гучаць акустычная гітара. Доўжыцца выстава будзе да сярэдзіны ліпеня.

## ТЭАТР

### 13 чэрвеня

**Юнага гледача** — «Вясёлы Роджар»
**Оперы і балета** — «Севільскі цырульнік»
**Купалаўскі** — «ГендэльБах»
**Беларускай драматургіі** — «Адэль»

### 14 чэрвеня

**Юнага гледача** — «Царэўна Жабка»
**Беларускай драматургіі** — «Бегчы з Эльсінора, альбо Гамлет навыварат»
**Купалаўскі** — «Вячэра з прыдуркам»

### 15 чэрвеня

**Лялек** — «Чырвоны Каптурок»

### 16 чэрвеня

**Лялек** — «Марозка»
**Купалаўскі** — «Офіс»
**Оперы і балета** — «Зала чакання»

### 17 чэрвеня

**Купалаўскі** — «Самотны Захад»
**Оперы і балета** — «Анюта»

### 18 чэрвеня

**Юнага гледача** — «Тры парсючкі»
**Купалаўскі** — «Паўлінка»

### 19 чэрвеня

**Юнага гледача** — «Пан міністар»
**Беларускай драматургіі** — «Нью! Хэппі, валентайн!»

### 20 чэрвеня

**Оперы і балета** — «Князь Ігар»
**Беларускай драматургіі** — «Раскіданае гняздо»
**Юнага гледача** — «Аднакласнікі»
**Купалаўскі** — «Вячэра з прыдуркам»

### 21 чэрвеня

**Беларускай драматургіі** — «Адамавы жарты»
**Оперы і балета** — Вечар рамансаў
**Купалаўскі** — «Арабская ноч»

### 22 чэрвеня

**Лялек** — «Прыгоды Пін-Піна»

### 23 чэрвеня

**Лялек** — «Жахлівы спадар Ау»
**Купалаўскі** — «Паўлінка»

## КІНО

### На мяжы неверагоднага

**Эпік (Epic)**
2013
**Жанр:** Мультфільм, камедыя
**Рэжысёр:** Крыс Уэдж
ЗША, 102 хв.

Складана падлічыць колькасць фільмаў і мульцікаў, у якіх дабро любымі спосабамі імкнецца спыніць зло, якое ў сваю чаргу не здаецца і спрабуе любымі спосабамі ажыццявіць свае планы. «Эпік» — чарговы з іх. Гэта па-сапраўднаму прыгожы, яркі і маляўнічы мультфільм ад стваральніка ўжо класічнага «Ледавіковага перыяду». Галоўным складнікам «Эпіка» з'яўляецца яго візуалізацыя. Тут літаральна ўсё выглядае сапраўды эпічным. Чаго толькі варты лес і яго насельнікі!
Праз прыгожую карцінку сюжэт месцамі адыходзіць на другі план. Але гісторыя, хоць і даволі прадказальная, працягваецца.

Kinopoisk.ru







**14 чэрвеня а 20-й у «Салтайме» — канцэрт гурту «Нейрадзюбель».**

# Памежнікі змагаюцца з чаўнакамі, а церпяць турысты

Усё больш машын адпраўляюць на надгляд на **«чырвоны» калідор**.

Ад 4 чэрвеня беларусы, якія выязджаюць з краіны ці вяртаюцца ў яе на аўто, вымушаныя стаяць на мяжы яшчэ даўжэй. Памежнікі і мытнікі пачалі працаваць па новай інструкцыі. Згодна з ёй, «падазроныя» аўто перастаўляюць з хуткага «зялёнага» калідора на «чырвоны», дзе мытнікі ўважліва і павольна надглядаюць машыну. Як высветлілася, сама пастанова з’явілася яшчэ ў 2011, аднак кіравацца ёй памежнікі вырашылі толькі цяпер.

Крытэрыі «падазронасці» аўто такія шырокія, што пад іх трапляе ледзь не кожная машына, якая раней магла даволі хутка праехаць мяжу. У прыватных гутарках работнікі кажуць, што такім чынам ідзе змаганне з «бензавозамі» і чаўнакамі.

Але барацьба ідзе не надта плённая, бо спрактыкаваныя жыхары прымежных раёнаў лёгка абыходзяць абмежаванні. Напрыклад, каб праехаць учацвярых без надгляду, дастаткова аднаго пасажыра адправіць пешшу і зноў падабраць яго пасля мяжы. Так ці інакш, але чэргі на выезд з Беларусі і вяртанне дадому значна павялічыліся.

**ЯМ**

**Крытэрыі, па якіх аўто могуць пераставіць у «чырвоны» калідор**

1) Машына выязджала за мяжу на працягу апошніх 8 дзён.
2) У машыне чацвёра і больш чалавек.
3) У салоне ці багажніку ёсць сумкі, чамаданы, пакеты, каробкі, мяшкі, у якіх могуць знаходзіцца тавары.
4) Аўто мае 8 і больш пасадачных месцаў.
5) Аўто зарэгістраванае на тэрыторыі іншай дзяржавы.



PHOTO.BYMEDIA.NET

**Раней аўтамабілісты наракалі на марудную працу палякаў ці літоўцаў. Цяпер прэтэнзіі з’явіліся і да «сваіх» памежнікаў.**

**Транспарт**

# Плацкартныя білеты ў Крым раскупляюць за пяць хвілін

Але можна ехаць і на машыне — **дарогі адрамантаваныя**.

Штолета цягнік №100 «Мінск—Сімферопаль» становіцца для тысяч беларусаў самым зручным шляхам на мора. Ранкам выязджаеш з Мінска, днём перасякаеш мяжу і на наступную раніцу ўжо выходзіш на сімферопальскім вакзале. Білет у купэ каштуе 935 тысяч рублёў, у плацкарце — 590 тысяч, і менавіта за гэтыя квіткі штодня ідзе сапраўдны бой паміж пасажырамі.

Беларуская чыгунка дазваляе набываць білеты за 45 дзён да адпраўлення, пачынаючы з 8-й раніцы. Гэта значыцца, што ўжо цяпер можна аплачваць падарожжа, запланаванае на апошнія дні ліпеня. Але хоць у «сімферопальскіх» цягніках па 15 вагонаў, а то і больш, танных білетаў усім ахвотным не хапае.

Квіткі можна набываць у касах альбо праз інтэрнэт, і ўжо ў 8:05—8:10 у продажы не застаецца ніводнага месца на ніжнія паліцы ў плацкарце! За гэты час расхопліваецца амаль дзве сотні білетаў. Каб быць у чарзе першым, пасажыры стаяць ад шостай раніцы.

У інфацэнтры Беларускай чыгункі такую сітуацыю тлумачаць выключна высокім попытам на адпачынак у Крыме. Аднак калі ніжнія месцы прападаюць імгненна — як карова языком злізала, — то верхнія застаюцца.

Людзі, якія раней працавалі ў сістэме продажаў білетаў, мяркуюць, што знікненне білетаў можа быць звязанае з турыстычнымі фірмамі. Тыя выкупляюць квіткі для сваіх кліентаў, прычым адразу групай. Паводле інструкцыі, у такім выпадку касіры мусяць прабіваць і ніжнія, і верхнія месцы, аднак гэта адбываецца не заўсёды.

Зрэшты, калі выкупіць месца да Сімферопаля вы не паспелі, не расстройвайцеся. Па-першае, некаторыя білеты яшчэ трапяць у продаж у наступныя дні, таму час ад часу правярайце сайт чыгункі. Па-другое, да Крыма можна дабрацца з перасадкай у Кіеве. Атрымаецца танней, чым на прамым цягніку.

**Дарога вярнулася**

Яшчэ адзін папулярны шлях у Крым — на сваім аўто. Дарога складае каля 1400 км у кожны бок, але, калі ехаць вялікай кампаніяй, атрымліваецца танней, чым на чыгунцы. Ды і падчас адпачынку можна будзе аашчадзіць на грамадскім і экскурсійным транспарце.

Пасля зімы з рэзкімі перападамі тэмпературы ўкраінскія дарогі аказаліся ўшчэнт разбітыя. Тыя беларусы, хто выпраўляўся ў Крым вясной, былі шакаваныя. «На сваёй машыне нават не спрабуйце ехаць! Жахлівае бездарожжа», — папярэджвалі яны на форумах у інтэрнэце.

На магістралі Кіеў—Адэса сустракаліся такія ямы, што ехаць хутчэй за 50 км/г было небяспечна.

Аднак за красавік—май украінскім рабочым удалося прывесці дарогі ў больш-менш прыстойны выгляд. Нараканні ёсць хіба што на кавалак трасы ў раёне Чарнігава. Падарожнікі расказваюць, што час на дарогу ад Мінска да Крыма займае каля 17 гадзін.

**ЯМ**

**Ёсць варыянт і для багатых турыстаў. Двойчы на тыдзень з Мінска ў Сімферопаль лятае самалёт. Білет у два бакі каштуе каля $345**

**Прыгажосць**

# Складзены партрэт самай сэксуальнай жанчыны



**Часткі твару** ўзялі ад розных зорак.

Сацыёлагі вырашылі скласці партрэт ідэальна прыгожых людзей па дадзеных апытання 1000 мужчын і 1000 жанчын. Кожны з удзельнікаў павінен быў назваць частку твару зоркі, якую ён лічыць самай сэксуальнай. Апытанне, праведзенае на замову брытанскай сеткі супермаркетаў Morrisons, дазволіла высветліць, што мужчынам больш за ўсё падабаецца плоскі жывот спартоўкі Джэніфер Эніс, які павінен спалучацца з пышнай фігурай Біёнсэ і шыкоўнымі валасамі Кэтрын Джэнкінс. Самым сэксуальным апынуўся прамы строгі нос Саманты Кэмеран, жонкі дзейснага прэм’ер-міністра Вялікабрытаніі. Праўда, складзеная з гэтых частак цела фатаграфія «самай сэксуальнай жанчыны» выглядае чамусьці крыху страшнавата.

**Medikforum.ru**

**Здароўе**

# Для хворых на цукроўку вынайшлі нанапрэпарат

Ён **капіюе дзейнасць** падстраўнікавай залозы.

Цукроўка 1 тыпу «прывязвае» хворых да штодзённых ін’екцыяў інсуліну. Хворыя вымушаныя карыстацца глюкометрамі, увесь час насіць з сабой запас інсуліну і рабіць сабе ўколы.

Аднак даследчыкі з універсітэта штата Паўночная Караліна і ўніверсітэта ў Чэпэл-Хіл сцвярджаюць, што вырашылі гэту праблему. Навукоўцы пакуль не знайшлі спосабу аднавіць нармальную работу падстраўнікавай залозы, але распрацавалі прынцыпова новы спосаб дастаўкі інсуліну ў арганізм.

Група даследчыкаў стварыла прэпарат, які будзе аўтаматычна кантраляваць вызваленне інсуліну ў кроў. Ён складаецца з часціцаў, памерам не большых за адзін нанаметр. Кожная часціца мае інсулінавае ядро і абалонку з поліцукрыду дэкстрану. Да кожнай часціцы таксама «прымацаваны» фермент пад назвай глюкозаакісідаза.

Калі ўзровень глюкозы ў крыві дасягае пэўнага ўзроўню, глюкозаакісідаза ператварае яе ў глюконавую кіслату. Кіслата распускае абалонку часціцы, і інсулін вызваляецца ў кроў, што паніжае ўзровень цукру ў крыві і спыняе далейшую рэакцыю.

Кажучы простымі словамі, распрацаваныя наналекі імітуюць працу падстраўнікавай залозы і не патрабуюць ніякіх дзеянняў з боку хворага.

Адна ін’екцыя новага прэпарату падтрымлівае нармальны ўзровень цукру ў крыві ў інсулінازалежнай мышы цягам 10 дзён. Даследчыкі лічаць, што наступным крокам стане выпрабаванне прэпарата на людзях.

**Кірыла Хілько**



СЯРГЕЙ ЗІНІН

**Штогадовая выстава «Белагра» прайшла ў футбольным манежы на праспекце Пераможцаў. Не абышлося без агітацыі за шчаслівае савецкае мінулае і традыцыйных саламяных баб.**



**Закаханыя туркі, апранутыя па апошняй пратэстнай модзе. На вуліцу турэцкіх гарадоў выходзіць левая моладзь, якая карыстаецца выгодамі дэмакратыі. Гэта зусім не змаганне за свабоду, а вялікі пшык.**


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Фэст вулічнага экстрэмальнага спорту прайшоў на пляцоўцы перад «Мінск-Арэнай». Упершыню ў Беларусі ў адным месцы сабраліся найлепшыя прадстаўнікі розных экстрэмальных відаў спорту — паркура, ролернага спорту, стрытбола, BMX і іншых.**


НАСТАССЯ ХРАЛОВІЧ

**Пад Мінскам адгрымеў баль Соф'і Гальшанскай. Імпрэза адбылася 7 чэрвеня ў Музеі народнай архітэктуры і побыту.**

## Анекдоты і жарты

* * *

Пуцін разводзіцца з жонкай. Лепей бы Крэмль развёўся з Беларуссю.

* * *

Цяпер з Людмілай Пуцінай абавязаны ажаніцца Мядзведзеў.

* * *

Ва Уладзіміра і Людмілы Пуціных пытаюцца:

— Як вы будзеце дзяліць сумесна нажытую маёмасць?

— Па Урале.

* * *

Пры запаволеным праглядзе відэа краштэста «Лады Каліны» відаць, як манекен плача і спрабуе камусьці патэлефанаваць.

* * *

Хітры ваенкам назваў сваіх сыноў Ірынай, Аленай і Вольгай.

* * *

У афрыканскіх школах дзеці, якія ідуць намачыць анучу, адсутнічаюць тыднямі.

* * *

Колькі ўжо гадоў прайшло, а я ўсё чакаю. Калі? Ну калі спатрэбіцца ў жыцці косінусы і сінусы?!

* * *

У вёсцы з-за сланечніка пабіліся верабей і гопнік.

* * *

У доктара Айбаліта быў брат — паталагаанатам Айпамёр.

* * *

Давай пагуляем у піратаў. Давай, заходзь на торэнт!

## «НН» сто гадоў з вамі

**Дагэтуль цыркулярамі было забаронена «Нашу Ніву» выпісваць і чытаць** усім вучыцелям Віленскага Вучэбнага Округа, усім бацюшкам, усім паштовым чынам, усім паліцэйскім чынам, усім ваенным чынам, усім валасным чынам, а цяпер забаранілі «раз і назаўсёды» чытаць «Нашу Ніву» яшчэ і вучням Варанецкай сельскагаспадарчай школы. Страшны звер гэта «Наша Ніва»!

**«НН». №23. 1913.**

**Дома і назусім.** Народны пісьменнік Беларусі не абвяшчаў пра сваё вяртанне. Але вестка, што Быкаў у Мінску, разляцелася шырока і ўмомант, як толькі дзядзьку Васіля пачалі сустракаць на вуліцах сталіцы, на алеях Бараўлянаў, дзе яго кансультуе адзін з найлепшых прафесараў. Быкаў — дома і, здаецца, назусім. Значыць, усё яшчэ вернецца на свае колы.

**«НН». №22. 2003.**

**Наша Ніва**
незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

| | |
|---|---|
| сакратарка рэдакцыі | Наста Бакшанская |
| шэф-рэдактар | Андрэй Дынько |
| намеснікі галоўнага рэдактара | Ягор Марціновіч<br>Зміцер Панкавец |
| галоўны рэдактар | Андрэй Генадзевіч Скурко |
| заснавальнік | Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы» |
| выдавец | Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы» |

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. 8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8004. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 11.06.2013.
Замова №2487.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.

Цана дамоўная.

ISSN 1819-1614

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12